ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 50 (2511)
ПЯТНІЦА
11
верасня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.




## ЧЫРВОНЫ ЛІСТОК У КАЛЕНДАРЫ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ



Фота Ул. КРУКА.

ПРАЗ тры дні, 14 верасня—пяцьдзесят гадоў, як жыве і служыць роднаму народу Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Яшчэ не сціхла рэха баёў той, грамадзянскай вайны, яшчэ Савецкая ўлада толькі ўсталёўвалася на беларускай зямлі, а ў сталіцы маладой рэспублікі, па загадзе Народнага камісарыята асветы БССР, адкрываў заслону першы ў гісторыі прафесіянальны тэатр. І ва ўрачыстым уздыме першыя гледачы разам з удзельнікамі спектакля спявалі «Інтэрнацыянал».

Так пачыналася гісторыя сцэнічнага мастацтва Савецкай Беларусі. Яе рабілі людзі, для якіх служэнне народу было душэўным абавязкам, патрыятычнай справай і найвялікшай радасцю. З акопаў вайны і з курных хат, з рабочых пасёлкаў і чыгуначных станцый ішлі на «агеньчык» творчасці, несучы з сабой не толькі малады напал, а глыбіннае веданне народнага жыцця.

На юбілейнай пераклічцы, натуральна, не ўсе, хто праславіў тэатр, адзавуцца на сваё імя. Уладзімір Крыловіч і Глеб Глебаў, Фларыян Ждановіч і Барыс Платонаў, Генрых Грыгоніс і Кастусь Саннікаў, Еўсцігней Міровіч і Леў Літвінаў... З кожным з гэтых імёнаў звязаны цікавыя і багатыя старонкі станаўлення і развіцця культуры сцэнічнага мастацтва, якая ўласціва лепшым работам калектыву. І наша даніна ўдзячнасці ім—шчырая і глыбокая!

Шэсць разоў на тыдні вечарамі адкрываецца заслона купалаўскага тэатра. І амаль кожны раз мы прысутнічаем на свяце акцёрскай творчасці. Стваральнікам гэтых свят—нашы апладысменты, наша пашана!

Перад вамі на фота—выпрабаваная гвардыя вопытных майстроў, ветэранаў трупы. Гэта яны стаяць на варце сапраўдных каштоўнасцей у мастацтве сцэны, перадаюць традыцыі моладзі. Не адзін дзесятак гадоў гэтыя высакародныя людзі штораніцы ідуць у родны тэатр на рэпетыцыі, каб шукаць адзіна правільныя і абгрунтаваныя фарбы таго свята, што нясе з сабой Тэатр. А ўвечары перад грыміравальным люстрам прымаюць духоўны туалет, каб на якія тры гадзіны стаць тымі людзьмі, ролі якіх даручыў ім Тэатр...

Наш здымак зроблены за тыдзень да юбілейнай даты. Праз якіх пяць хвілін іх пакліча на сцэну званок памочніка рэжысёра. На дзвярах залы ўжо вісіць заклік: «Цішэй! Ідзе рэпетыцыя!» Але ёсць яшчэ магчымасць абмяняцца жартам... Злева направа—народная артыстка СССР Лідзія Ржэцкая, народны артыст БССР Уладзімір Дзядзюшка, заслужаны артыст рэспублікі Павел Пекур, народны артыст СССР Леанід Рахленка, заслужаны артыст БССР Сцяпан Хацкевіч, народная артыстка БССР Раіса Кашэльнікава, народны артыст СССР Здзіслаў Стома, заслужаная артыстка рэспублікі Лідзія Шынко, народныя артысткі БССР Стэфанія Станюта і Вера Пола.

Матэрыялы, прысвечаныя 50-годдзю Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, чытайце на стар. 4—5—6.

# БУДЗІЦЬ ЖЫВЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ

*Нататкі з уступных экзаменаў па роднай мове і літаратуры*

Жнівень быў нялёгкім для тых выкладчыкаў філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, якім сёлета давялося прымаць уступныя экзамены. Як і летась, конкурс аказаўся вялікі: чатыры чалавекі — на аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры, пяць — на аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Цяга выпускнікоў да гуманітарных навук працягвае нарастаць, і гэта радуе. Прыемна ў цэлым, што і агульнаадукацыйны ўзровень абітурыентаў расце, што ўсё цяжэй становіцца з лепшых выбіраць лепшых, бо ўжо не толькі прыходзіцца браць пад увагу, бал, які абітурыент набраў, але і ўсе паказчыкі па вучобе ў школе, праяўленыя ў школе здольнасці.

Тым не менш экзамены выявілі і шэраг істотных недахопаў у падрыхтоўцы школьнікаў — будучых прэтэндэнтаў на атрыманне спецыяльнасці філолага, і гэта, напэўна, патрабуе больш шырокага грамадскага абмеркавання.

Абітурыентам-філолагам сёлета былі прапанаваны наступныя тэмы сачыненняў — «Якуб Колас — вялікі песняр беларускага народа», «Вобразы Васіля і Ганны ў рамане І. Мележа «Людзі на балоце», «Маё разуменне любві да Радзімы».

З літаратурных тэм большасць абітурыентаў пісала сачыненні па рамане І. Мележа, каля сарака працэнтаў выбрала вольную тэму.

Трэба сказаць, што большасць учарашніх школьнікаў выявіла дастатковае ўменне самастойна раскрываць зададзеную тэму, добрае веданне літаратурных твораў. З лепшых сачыненняў запомніліся сачыненні на вольную тэму М. Прыгодзіча (Лыпчаўская СШ Пінскага раёна), Тамары і Святланы Лапаў (Ваўкавыская СШ № 2).

«Чацвёрачныя» сачыненні ў цэлым таксама вызначаліся дастаткова шырокім веданнем матэрыялу. Але ўсё ж завельмі давала адчуваць сябе іх залежнасць ад стылю падручніка. Відаць, школа не заўсёды пільна патрабуе самастойнасці ў разгортванні тэмы, не заўсёды звяртае ўвагу на недапушчальнасць механічнага завучвання фраз падручніка. Асабліва гэта было відно з сачыненняў па рамане І. Мележа. Прычым амаль усе абітурыенты паўтаралі відавочныя недакладнасці, якія трапілі ў падручнік. Так, яны пісалі, што чытач з Ганнай у рамане ўпершыню сутыкаецца, калі ўсе куранёўцы едуць на сенажаць, у той час, калі на самой справе знаёмства чытача з ёй адбываецца зусім у іншых абставінах, — успомніць апісанне раніцы ў сяле і як Ганна выходзіць да студні. Усе сачыненні, таксама ўслед за падручнікам, называлі Апейку старшынёй райвыканкома, хаця ён у рамане — старшыня валвыканкома.

Сачыненні на вольную тэму, хоць у цэлым і праяўлялі большую самастойнасць у выкладанні тэмы і больш павышаную эмацыянальнасць, тым не менш не былі пазбаўлены шаблонна-газетнага стылю, агульшчыны, рыторыкі. Відаць, школа павінна яшчэ больш завастраць увагу на выхаванні асобы ў вучнях, на прабуджэнні ў кожным з іх умення выказваць сябе, сваё канкрэтнае, непаўторнае, жывое хваляванне. Гэта нам здаецца вельмі важным у падрыхтоўцы вучня, як шматгранна адукаванай, гарманічна развітай асобы.

У цэлым пісьменнасць сачыненняў была здавальняючай. «Троечныя» сачыненні больш грашылі стылявымі памылкамі, неахайнасцю ў выразах, русізмамі, чым уласна граматычнымі памылкамі. Але кідаліся ў вочы і некаторыя характэрныя, уласцівыя амаль усім слабым сачыненням зрывы. Так, у большасці сачыненняў двоечнікаў — і гэта перш за ўсё, відаць, будзе цікавым для настаўнікаў,— фігурыравалі такія памылкі:

а) няўменне адрозніваць узмацняльную часціцу «ні» ад адмоўнай «не»;

б) невылучэнне пабочных слоў коскамі;

в) няўменне адрозніваць складана-злучаны сказ са злучнікам «і», і ў выніку пропуск коскі перад «і»;

г) некаторыя абітурыенты празмерна злоўжывалі далучанымі канструкцыямі ў выглядзе самастойных сказаў;

д) траплялася таксама няправільнае напісанне і перанос афрыкатаў;

е) чамусьці вельмі многія абітурыенты не скарачаюць «у» і замест «ё» пішуць «е».

Вусныя адказы паказалі, што абітурыенты ў аснове сваёй рыхталіся старанна — добра ведалі рэкамендаваныя праграмай мастацкія творы, умелі аналізаваць тэму, ідэю твора, слабей — мастацкія асаблівасці. Вусная культура іх увогуле нядрэнная. Большасць абітурыентаў на гэты раз многа дэкламавала напамяць мастацкіх тэкстаў і дэкламавала па-мастацку.

Лепшымі адзнакамі экзаменатары адзначылі адказы І. Роўды з Мядзельскай СШ, Т. Галабурды з Косава, А. Насцюк з Докшыцкай СШ, М. Падворнай са Смілавіцкай СШ, Р. Жыбуль са Заёмінскай СШ Стаўбцоўскага раёна і інш.

Разам з тым вусны экзамен выявіў і асобныя слабыя месцы ў падрыхтоўцы вучняў. Так, благімі, як правіла, былі адказы па абагульняючых пытаннях — па характарыстыцы сучаснай паэзіі, прозы, драматургіі. Складвалася ўражанне, што школа зусім адарвана ад сучаснага літаратурнага працэсу, вучні амаль абсалютна не ведаюць сённяшняга дня літаратуры, вельмі мала чытаюць літаратурных часопісаў і газет, часта нават не ведаюць, якія літаратурныя часопісы і газеты ў нас выдаюцца. Гэта, на нашу думку, вялікая бяда, вялікая недаробка школы.

Выявілася і яшчэ адна вельмі прыкрая акалічнасць, у якой вінаваты ўжо не так абітурыенты, як тыя, хто даваў і зацвярджаў мінімум рэкамендацыйнага спіску па роднай літаратуры. Гэта спіс, змешчаны ў даведніку 1970 года, выдадзеным «Народнай асветай», настолькі вузкі, што па-за ўвагай засталіся вельмі важныя творы і з'явы роднай літаратуры. Абітурыенты ведалі толькі тое, што ўключана было ў спіс, і ні кроплі болей. І атрымлівалася, што яны як і не чулі пра «Сымона-музыку» Якуба Коласа, «Паўлінку» Янкі Купалы, «Салаўя» З. Бядулі, пра паэзію Цёткі, раннія апавяданні М. Лынькова і многае іншае. Засяроджваючы ўвагу толькі на творах, пазначаных у спіску, абітурыенты амаль не мелі ўяўлення аб этапах, заканамернасцях гістарычнага развіцця роднай літаратуры.

Усё яшчэ слабымі застаюцца ў абітурыентаў і веды па тэорыі літаратуры. У лепшым выпадку зазубрана гучалі асобныя азначэнні. Растлумачыць жа іх, прымяніць веды на практыцы — гэтага большасць абітурыентаў не магла. Даваліся, напрыклад, азначэнні тэмы, ідэі, а калі прапаноўвалася канкрэтна вызначыць тэму, ідэю канкрэтнага твора, абітурыент губляўся. Лягчэй было пачуць таксама само азначэнне літаратуры ці вершаваных памераў. А, зноў жа, прыкладаў метафар ці паэтычных радкоў пэўнага памеру абітурыенты амаль не прыводзілі, вельмі цяжка было ім канкрэтна вызначыць, якім памерам напісан той ці іншы верш. У агульным блытаныя ўяўленні былі ў абітурыентаў і аб відах і родах літаратуры, жанрах, сюжэце, рэалізме, рамантызме і іншых пытаннях, звязаных з тэорыяй літаратуры.

Дало выразна адчуць сябе і тое, што вучні зусім не займаюцца ў старэйшых класах роднай мовай. Як правіла, яны губляліся пры граматычным разборы сказаў, блыталіся ў раскрыцці марфалагічнай структуры слова, не ведалі фанетыкі. Знакі ў сказе, звычайна, расстаўляліся імі правільна, але вытлумачэнне іх зноў жа не заўсёды ішло гладка.

Некалькі слоў хочацца сказаць яшчэ аб адным. Сёлета значна больш, чым летась, пісалі сачыненні па беларускай літаратуры абітурыенты негуманітарных факультэтаў — будучыя біёлагі, хімікі, фізікі, матэматыкі. Вусны экзамен па роднай літаратуры здаваў значна меншы працэнт абітурыентаў, і, відаць, таму, што паступаючыя загадзя да яго не рыхтаваліся. Чамусьці да апошняга часу ў аб'явах аб прыёме якія даюцца вну, спецыяльна не агаворваецца палажэнне, што выпускнікі могуць па выбары пісаць сачыненне на беларускай ці рускай мове і па сваім выбары могуць здаваць вусны экзамен па адной з дзвюх літаратур — рускай ці беларускай. Аб гэтым яны даведваюцца толькі з аб'яў прыёмнай камісіі, і, вядома, за лічаныя дні ўзнавіць веды па роднай літаратуры ім цяжка, і яны здаюць тое, што на працягу ранейшага часу рыхтавалі.

Асаблівую захопленасць у абітурыентаў-нефілолагаў выклікалі такія вольныя тэмы, як «Роздум ля помніка Леніну», «Квітней, родная Беларусь!..» Нямала з іх пісала і на літаратурныя тэмы, і, трэба сказаць, што сачыненні нефілолагаў часта прыносілі большае задавальненне, чым тых абітурыентаў, якія чамусьці вырашылі, што іх лёс — філалогія. Бо якраз у нефілолагаў, якія пісалі сачыненне па беларускай літаратуры, як правіла, больш выяўлялася самастойнага погляду на рэчы, больш творчага, арыгінальнага пачатку.

Ёсць даўнішняя, застарэлая стэрэатыпная думка, што, калі ў цябе няма ніякіх здольнасцей, ідзі на філфак — тут і без здольнасцей можна пачытваць кніжкі, што літаратура — не фізіка ці матэматыка, ёю можа займацца кожны. Больш недарэчнага сцверджання цяжка прыдумаць! Каб выхаваць не чыноўніка ад літаратуры, а сапраўднага літаратара, патрэбен жа не проста абітурыент з дастатковым агульнаадукацыйным узроўнем, — патрэбен чалавек з жывым адчуваннем літаратуры, якое пачынаецца са здольнасці і самабытна выяўляць сябе самога, непаўторнага, у слове, і з умення па-свойму трансфарміраваць узятае ад настаўніка, ад мастацкага твора, ад падручніка. Калі гэтых своеасаблівых здольнасцей вучань не праяўляе ў школе, калі ўсе яго веды па літаратуры — проста агульнаадукацыйны цэнз, то, відаць, настаўнік не павінен такому выпускніку ставіць у атэстаце выдатна, не павінен дэзарыентаваць вучня. Маючы толькі па літаратуры «выдатна», такі вучань і вырашае, што яго прызванне — філфак, і паспрабуй дакажы з іх катораму, што ён не ведае літаратуры! Хочацца, каб і пра гэта помнілі настаўнікі, выпускаючы сваіх гадаванцаў у свет.

Чытаючы сачыненні абітурыентаў негуманітарных факультэтаў, прыходзілася часам шкадаваць, чаму ж гэта яны пайшлі не да нас, на філфак. А ўсё ад таго, што ў тых сачыненнях выяўлялася самастойнасць, асоба, з якой мог бы пачацца і выдатны філолаг. Але, відаць, самастойнасць, асобу ў абітурыента-нефілолага абудзіла не так літаратура, як іншыя навукі. Літаратура не менш канкрэтная дысцыпліна, чым фізіка ці хімія, і як бы добра было, каб яна стала не толькі датчыкам агульнаадукацыйнага цэнзу, які так скасабочана вымеран ва ўжо ўпамянутым намі даведніку 1970 года, а шырокім будзіцелем жывых здольнасцей вучня, асобы у ім, самастойнасці, шырыні кругагляду.

Алег ПОЙКА,
доктар філалагічных навук, в. а. прафесара кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна

*15-25 верасня ў Ташкенце адбудзецца кінафестываль краін Азіі і Афрыкі*

# КІНО І ЖЫЦЦЁ НАРОДА

Аждар ІБРАГІМАЎ,
кінарэжысёр, народны артыст Азербайджанскай ССР

Не першы раз Ташкент становіцца месцам важных міжнародных сустрэч. Стаў крылатым выраз «дух Ташкента», сэнс якога — гэта імкненне народаў да мірнага вырашэння вострых праблем часу.

Неўзабаве сталіца савецкага Узбекістана прыме ў свае гасцінныя абдымкі кінематаграфістаў з многіх краін Азіі і Афрыкі. Іх прывядзе сюды жаданне паказаць калегам па мастацтве свае творы, пазнаёміцца з фільмамі, зробленымі ў іншых краінах. Адным словам, бліжэй і лепш пазнаць адзін аднаго.

Я не буду асабліва арыгінальны, калі скажу, што творчыя кантакты і супрацоўніцтва кінематаграфістаў розных краін маюць важнае значэнне. Кінамастацтву па праве належыць вельмі вялікае месца ў духоўным жыцці сучаснага чалавека.

Сумленны, шчыры, верны жыццёвай праўдзе фільм здольны многае расказаць аб людзях, якія жывуць у розных кутках планеты, аб іх думах, спадзяваннях, імкненні да свабоднага жыцця і справядлівасці.

«За мір, сацыяльны прагрэс і свабоду народаў!» — такі дэвіз Ташкенцкага міжнароднага кінафестывалю.

Мы, савецкія людзі, з поўным разуменнем і спачуваннем ставімся да справядлівай барацьбы народаў супраць імперыялізму і неакаланіялізму, верым у поўную перамогу іх справядлівай справы.

Савецкіх кінематаграфістаў радуе шчырае імкненне многіх калег з афра-азіяцкіх краін ствараць фільмы, прасякнутыя духам любві да сваіх народаў, традыцыі і культура якіх бяруць вытокі з далёкага мінулага.

Мы ведаем, што творам нацыянальнай кінематаграфіі бывае часам нялёгка канкурыраваць з прадукцыяй заходніх фірм, якія наваднняюць экраны многіх краін сваёй прадукцыяй, нярэдка проста разбэшчваюць маладое пакаленне прапагандай пагоні за нажывай, сексу і гангстэрызму. Але таленавітыя фільмы мясцовых мастакоў, нягледзячы ні на што, знаходзяць дарогу да гледача, знаходзяць жаданы водгук у яго сэрцы.

У нас няма ніякага сумнення ў тым, што маладыя нацыянальныя кінематаграфіі будуць расці і мацнець год у год і заваёўваць экраны сваіх краін, выцясняючы камерцыйную кінахалтуру заходніх дзялкоў.

Фестываль будзе «выяўляць і заахвочваць лепшыя творы кінамастацтва краін Азіі і Афрыкі, развіваць супрацоўніцтва паміж кінематаграфістамі розных краін». Таму ён з поўным правам можа разлічваць на разуменне і падтрымку ўсіх прагрэсіўных дзеячоў мастацтва, якія выдатна разумеюць, як важна не толькі ўмацоўваць творчыя пазіцыі нацыянальных кінематаграфій, але і дапамагаць ім смялей выходзіць на міжнародную арэну, рабіць лепшыя творы здабыткам шырокага, многанацыянальнага экрана.

Напярэдадні другога кінафестывалю краін Азіі і Афрыкі ў Ташкенце, мне хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што кінамастацтва заклікана натхняць людзей на барацьбу за высокія ідэалы свабоды, шчасця, міру. І агульныя намаганні рэжысёраў і сцэнарыстаў, акцёраў і ўсіх іншых майстроў кіно павінны быць накіраваны на тое, каб такіх фільмаў было ўсё больш ва ўсіх краінах.

(АДН).

# МАСТАЦТВА З ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ,



Кандрат КРАПІВА,
народны пісьменнік Беларусі

## ВЯЛІКІХ ТВОРЧЫХ ПОСПЕХАЎ!

Ад «Беларускай хаткі» да Акадэмічнага тэатра—такі шлях прайшоў калектыў купалаўцаў за пяцьдзесят гадоў сваёй творчай працы. Пачатак гэтай працы закладвалі адданыя любімай справе таленавітыя юнакі і дзяўчаты, якія з часам выраслі ў выдатных майстроў сцэны і выгадавалі новае таленавітае пакаленне. Вялікі ўклад унёс тэатр ў развіццё беларускага тэатральнага мастацтва. Сотні спектакляў было пастаўлена на яго сцэне, і яны прынеслі савецкаму гледачу шмат радасці і вялікую эстэтычную асалоду.

Побач з творамі Астроўскага, Горкага, Шэкспіра, Мальера на сцэне тэатра знайшлі сцэнічнае ўвасабленне творы многіх савецкіх аўтараў, у якіх адлюстраваліся вялікія падзеі нашых дзён, ратныя і працоўныя подзвігі савецкіх людзей у іх барацьбе за стварэнне сацыялістычнага грамадства.

Значную ролю адыграў тэатр у развіцці беларускай драматургіі. Многія з вядомых нам цяпер беларускіх драматургаў упершыню прыйшлі ў гэты тэатр са сваімі, яшчэ далёка не дасканалымі творамі. Уважлівыя адносіны калектыву да маладых аўтараў, кваліфікаваная дапамога выдатных майстроў — рэжысёраў і акцёраў дапамагла ім глыбей уразумець законы драматургіі і патрабаванні сцэны.

Мяне асабіста з калектывам гэтага тэатра доўгія гады звязвае плённая творчая дружба. Тут я ўпершыню пазнаў асалоду якую дае людзям сапраўднае тэатральнае мастацтва, калі глядзеў спектакль «На Купалле» з Г. Грыгонісам у галоўнай ролі. Больш блізкае знаёмства з тэатрам адбылося, калі мяне папрасілі перакласці камедыю Д. Фанвізіна «Недарасль». У часе падрыхтоўкі спектакля я часамі прысутнічаў на рэпетыцыях і меў магчымасць наглядаць, як драматычны твор ператвараецца ў сцэнічны, якія намаганні патрабуюцца для гэтага ад рэжысёра і акцёраў. Нарэшце, заахвочаны прыкладам Кузьмы Чорнага, п'еса якога «Бацькаўшчына» ўжо з поспехам ішла на гэтай сцэне, я і сам адважыўся паспрабаваць свае сілы ў новым для мяне жанры. Вынікам была п'еса «Канец дружбы», з якой я нясмела пераступіў парог тэатра. Сустрэлі мяне прыхільна і агульнымі намаганнямі пачалі прыводзіць п'есу «ў божаскі від» у сэнсе зручнасці яе для пастаноўкі на сцэне. Найбольш дапамагаў мне пры гэтым пастаноўшчык спектакля Л. Літвінаў.

Купалаўцамі былі пастаўлены ўсе напісаныя мною п'есы, апрача аднае. Ставілі іх Л. Літвінаў, Л. Рахленка, К. Саннікаў. Вялікую дапамогу ў пастаноўцы камедыі «Хто смяецца апошнім» аказаў рэжысёр МХАТа Іосіф Майсеевіч Раеўскі.

Некаторыя з гэтых спектакляў карысталіся поспехам у гледача, а былі і не вельмі ўдалыя. Залежала гэта ў асноўным ад якасці драматургічнага матэрыялу. Што да выканаўцаў, дык яны не шкадавалі сіл, каб зрабіць спектакль яркім і цікавым. А зрабіць яны маглі шмат. Каб у гэтым пераканацца, досыць назваць імёны такіх выдатных майстроў сцэны, як У. Крыловіч, Г. Глебаў, Б. Платонаў, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, У. Уладамірскі, Г. Грыгоніс, І. Ждановіч, К. Міронава, В. Галіна, У. Дзядзюшка, С. Бірыла, В. Пола, А. Бараноўскі, З. Стома, С. Станюта, З. Браварская, П. Пекур, І. Шаціла.

Яшчэ можна было б назваць многіх з слаўнай плеяды купалаўцаў, што здабывалі славу свайму тэатру і ўсяму беларускаму тэатральнаму мастацтву. Вялікае ім дзякуй, што ў сваёй творчай працы яны аддалі ўвагу і маім творам, зрабіўшы ўсё магчымае, каб данесці да глядача ўсё лепшае, што ў іх ёсць.

Ад усяго сэрца віншую калектыў роднага мне тэатра з слаўным юбілеем і жадаю яму далейшых творчых поспехаў на радасць савецкаму гледачу!

Іосіф РАЕЎСКІ,
народны артыст СССР

## КУПАЛАВЕЦ—ЗВАННЕ АДКАЗНАЕ

Хачу сказаць вам, дарагія калегі, што купалавец—гэта ўжо званне, якім можна ганарыцца і якое «да твару» сапраўднаму акцёру!

...Трыццаць гадоў назад слава тэатра яшчэ была не такая вялікая. Я, у прыватнасці, ведаў пра калектыў нямнога. Калі ж паглядзеў вашы спектаклі — зразумеў, што маю справу з цікавымі акцёрамі, што вам пад сілу складаныя задачы. Мне прадстаяла разам з рэжысёрам Міхаілам Зоравым працягваць работу над «Апошнімі» М. Горкага. Мая задача была і цяжкая і сціплая — ўнесці ў спектакль, калі можна так сказаць, мхатаўскі дух. Ніколі не забуду непаўторную Веру — Ждановіч, Соф'ю — Галіну, Пятра — Платонава, Якава — Бірылу, Івана Каламійцава — Уладамірскага. «Мхатаўскае» было для іх арганічнае і зразумелае. І тое ж самае ў сатырычным спектаклі «Хто смяецца апошнім» — Рахленка, Глебаў, Грыгоніс развівалі на беларускай сцэне здабытае Станіслаўскім у «Гарачым сэрцы».

Гартаючы ў думках «этапы вялікага шляху» купалаўцаў, бачыш, што тэатру шанцавала на рэжысуру — Міровіч, Літвінаў, Саннікаў, Рахленка, Зораў, Эрын... Можа, такі доўгі спіс розных рэжысёраў і здзівіць кагосьці, але кожны з названых тут аддаў сябе, свой талент, свае нервы, свае сілы, каб умацаваць гэтае званне — купалавец. І ўмацавалі!

Чым яшчэ слаўны тэатр! Артыстычным ансамблем, глыбокім разуменнем духу і прыроды беларускага чалавека, сваім нястомным жаданнем змагацца са злом і дапамагаць людзям жыць па вышэйшай праўдзе свайго часу.

Я заўсёды сачу за тэатрам, радуюся яго поспехам, пакутую ад пралікаў і памылак, якія, вядома, бываюць, як і ў кожнага тэатра. Бываюць горкія мінуты, дні і месяцы... Што зробіш, без гэтага, відаць, немагчыма будаваць тэатр. Толькі радасць, што нясуць купалаўцы, застаецца з намі, а засмучэнні ў дні свята ў рахунак не бяром!

Па праве старэйшага калегі я бяру на сябе смеласць напомніць маім сябрам старую, як свет, і ўсё ж заўжды жывую ісціну: рабіць мастацтва, рабіць тэатр павінны людзі па-добраму апантаныя, шчырыя і смелыя. Я жадаю такім купалаўцам поспехаў і ў другое паўстагоддзе іх дзейнасці!

ТОРЖЕСТВЕННОЕ ОТКРЫТИЕ
(б. Городском)
ИНТЕРНАЦИОНАЛ
РЫСЬ
מכשפה
СВАДЬБА
В среду 15
НА ДНЕ.
Русская драматическая труппа
Белорусская труппа
ПАУЛИНКА и дивертисмент
Еврейская труппа
БОГ МЕСТИ
דער שטומער

ПЕРШАЯ афіша тэатра. Так Першы БДТ запрашаў на сваё адкрыццё мінчан у верасні 1920 года. Падрабязна пра гэту падзею піша заслужаны артыст БССР Я. Рамановіч у сваім артыкуле «А ў сэрцы— заўсёды...»

Яўген РАМАНОВІЧ,
заслужаны артыст БССР



## А Ў СЭРЦЫ

### ІНТЭРВ'Ю З ФЛАРЫЯНАМ ЖДАНОВІЧАМ

Скажу адразу — такога не было. Але магло быць. 50 гадоў назад я проста не здагадаўся «вылушчыць» яго з таго, пра што мы з Фларыянам Ждановічам гаварылі. А калі б «вылушчыў», яно выглядала б прыблізна так:

— Фларыян Паўлавіч, вам Народны камісарыят асветы Беларусі даручыў стварыць беларускі тэатр. Першы дзяржаўны тэатр рэспублікі. Як вы маеце гэта рабіць?

— Аснову тэатра складзе трупа «Беларускай хаткі», акцёры Першага таварыства драмы і камедыі — Антук Крыніца, Янка Беларус, Ліда Навахацкая, Адам Церах, Генрых Грыгоніс, Кацярына Міронава, Аляксандр Ільінскі, сёстры Тарасік... Ну, і яшчэ будуць. З гэтага пачнём, а там людзі, мабыць, і самі на «агеньчык» пойдуць. З тэатраў, з клубаў, вяскоўцы. Будзем прымаць кожнага здольнага, а потым вучыць. Не ў класе, а на сцэне — у рабоце...

— Вам даюць будынак гарадскога тэатра. А там жа выступаюць руская і яўрэйская трупы. Як будзе з імі?

— Сцэны хопіць на ўсіх. Па чарзе па два дні на тыдні, а ў панядзелкі — агульная праграма, напрыклад, з аднаактовак.

— Беларусы пачнуць?..

— Выбралі «Рысь» — сацыяльна востры абразок жыцця, поўны сапраўднага драматызму. Эпіграф да пастаноўкі — «Завіруха» Максіма Багдановіча: «У бубны дахаў вецер б'е, грыміць па ім, звініць, пяе. І спеў ліецца ўсё мацней — гулянку справіў пан Падвей». Пачынаць такую справу, відаць, трэба з драмы. А праз які вечар дадзім Купалаву «Паўлінку»!.. Тут і слова, і спевы, і танцы. Хор Тэраўскага ведаеш? Ага, ён цяпер выступае ў царкве сляпых. Вядома, ходзяць людзі не так богу маліцца, як хор паслухаць! А будзе ён у тэатры, дык да нас пойдуць. Балетам будзе кіраваць Алексютовіч — той самы, у каго ўвесь Мінск танцаваць вучыцца. Аркестр свой будзе: малы склад для спектакляў, вялікі — для сімфанічных канцэртаў. Дырыжор — свой будзе. Адным словам, крылы распраўляем для вялікага палёту. Ды яна і справа такая — тэатр жа Дзяржаўны!..

### ПАГАЛОСКІ

— Афішу бачылі? Тэатр новы. Беларускі. Дзяржаўны. Яшчэ хлеба не хапае, а ўжо тэатр наладжваюць! Выходзіць вайне канец!.. Значыцца, улада савецкая намоцна ў Мінску... Ну, дзякуй богу, весялей на душы—заўтрашні дзень бачыш...

□

— Чулі, бальшавікі тэатр, бач, надумалі. Беларускі. На мужыцкай мове збіраюцца іграць. «Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!», а цяпер і сцэна свая... Вось яно як, васпане!... Рэвалюцыя...

### АДКРЫЦЦЁ

*Рэпартаж*

Зала гарадскога тэатра запоўнена па берагі. Здаецца, увесь Мінск сабраўся. Настрой урачысты. І аркестр падхоплівае яго — гучыць уступ, выконваецца «Інтэрнацыянал». Зала — на нагах. Зала спявае гімн разам з артыстамі.

Тэатр адкрыўся!

Святло гасне... Заслона...

Вые вецер, кружаць белыя сняжынкі, завіруха, сапраўды «гулянку справіў пан Падвей». У цьмяным святле ходзіць чалавек, куляецца па сумётах, абмацвае вострым, з жалезным наканечнікам, кіем дарогу. У начным змроку зялёнымі агеньчыкамі, як у рысі, гараць вочы. Насцярожаны чалавек ходзіць каля хаты і не адважваецца ў яе ўвайсці.

У каганцы гарыць лучына, ад яе хісткага святла па сценах курнай хаты скачуць цені. За сталом у белай палатнянай кашулі сядзіць каржакаваты, шыраплечы гаспадар хаты Сымон Мікула (Антук Крыніца). Ён сядзіць моўчкі, пыхкаючы люлькай і слухае сына Аляксея (Аляксандр Ільінскі), што вярнуўся з мястэчка. І ўсе, хто ў хаце, хто прыйшоў на пасядзелкі, яго слухаюць.

— Ён уцёк з катаргі і зараз ходзіць тут у наваколлі, шукае прытулку, а за ім жандары, як ганчакі... Калі схопяць — дзвесце бізуноў, а вытрымае, дык зноў на катаргу...

Усе жахліва ахаюць, хрысцяцца.

— Папера прыйшла ў воласць, пісар паказваў, дальбог, лавіць катаржаніна ўсім, напісана, і ў паліцыю, а то штраф...

Раптам зарыпелі дзверы, і хрыплы голас ледзь вымавіў:

— Пахвалёны ў хату! — незнаёмы зняў капялюш.

— Навекі вечныя, — у адказ.

— Дазвольце пасядзець крыху ў цяпле падарожніку, акалеў, зняду-жаў, такая завіруха...

Гаспадар моўчкі кіўнуў галавою.

Незнаёмы прысеў на лаўку каля гарачай печкі. Быў ён вельмі худы, у доўгім чорным дзіравым сурдуце, суконныя штаны, запраўленыя ў высокія боты, матляліся на яго нагах нібы анучы на плоце. Толькі востры, як у рысі, твар, аброслы рудым шчаціннем, ды пранізлівыя вочы гаварылі аб жалезнай волі і рашучасці незнаёмага. У нечым ён нагадваў Раскольнікава пасля забойства старой. (Ролю Падарожніка выконваў Фларыян Ждановіч). Трагедыйна прагучала сцэна, дзе

# МАСТАЦТВА САПРАЎДЫ НАРОДНАЕ

## МІНСК СЯРЭДЗІНЫ 20-х ГАДОЎ...



Мастацкі савет Першага БДТ. Злева направа (першы рад) — В. Галіна, Е. Міровіч, Л. Ржэцкая, Я. Дыла (дырэктар), Я. Рамановіч; другі рад — А. Марыкс, У. Патапаў, У. Крыловіч, А. Церах, С. Мышка, Б. Платонаў.

(Архіўны здымак).

## —ЗАЎСЁДЫ...

.Сымон пазнае ў Падарожніку свайго старэйшага сына...

Спектакль «Рысь» паставіў Ф.Ждановіч паводле сваёй інсцэніроўкі твора Элізы Ажэшкі «Зімовы вечар».

### РЭПЕТЫЦЫЯ

...Гарэць газоўкі. Электрычнасць дадуць толькі вечарам, на спектакль. На сцэне поўна ўдзельнікаў, рэпеціруюць другі акт «Паўлінкі». Апрача штатных, запрошаны статысты з клубаў, з самадзейнасці — вечарынка ў Крыніцкіх павінна быць як на вялікай сцэне. Паўлінка — Ліда Навахацкая, зухаватая дзяўчына, пяе, танцуе, здзекуецца з фанабэрлівага пана Быкоўскага — Фларыяна Ждановіча. Крыніцкі — Антук Крыніца стараецца ўлагодзіць іх: трэба ж дачку неяк замуж выдаць. Сусед Пустарэвіч — Генрых Грыгоніс — пасмейваецца з аднаго і другога, у яго — «свой розум ёсць спрытны»!

Гоман, песні, танцы, пагулянка выходзяць адмысловыя.

### ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН

Зала палае агнямі—прэм'ера «Паўлінкі» на вялікай сцэне. Гледачоў поўна, рыпяць крэслы, сядзяць па двое. У цэнтральнай, былой губернатарскай,ложы, абабітай малінавым аксамітам, аўтар камедыі Янка Купала. Жонку, цёцю Уладзю, як звалі яе ўсе, пасадзіў наперад, сам з-за яе плячэй прыглядаецца да публікі. Гледачы спачувалі прывабнай Паўлінцы, ад душы смяяліся з фанабэрлівай пыхі паўпанка Быкоўскага, апладзіравалі Пустарэвічу за яго трапныя жарты. У канцы спектакля наладзілі авацыі, выклікалі аўтара, але Купала не выйшаў.

Пасля спектакля, па дарозе дадому, ён гаварыў:

— Я ж не акцёр, што мушу выходзіць на апладысменты...

Мяркуючы па настроі, Купала быў задаволены пастаноўкай. Ён ішоў лёгкаю хадою ў палатняных, на вяровачных падэшвах, чаравіках, памахваючы тонкім прыгожым кійком з манаграмамі. Кожны, хто быў яго блізкім сябрам, прыбіваў на кіёк сваю срэбную памятку-манаграму; гэта было ў модзе, таксама, як і шырокі пояс з металічнымі спражкамі і нашытымі на ім скуранымі кішэнькамі для гадзінніка і сцізорыка. Пояс зграбна ахінаў у таліі парусінавыя штаны і часучовую кашулю пад сінім пінжаком.

Была сярэдзіна верасня. Мы ішлі па зялёнай зацішнай вуліцы (цяпер імя Янкі Купалы) і з усіх бакоў ад пахучых агародчыкаў курэў лёгкі водар.

Купала запрасіў усіх да сябе «на шклянку гарбаты».

Паглядзець спектакль прыехала многа сваякоў Купалы і цёці Уладзі і, як водзіцца, не з пустымі рукамі прыехалі. На стале з'явіліся і вэнджаныя кілбаскі, і падсушаны сыр, і яечня са скваркамі, і гарачая бульба, і нават бутэлька польскай «вудкі выбаровай», якую дасталі недзе ў спекулянтаў. Фларыян акуратна разліў усім па чарцы і крыху пакінуў у бутэльцы, як ён казаў, Янку на апахмел. Купала запратэставаў:

— Разлівай да канца! Не за тое бацька сына біў, што піў, а за тое, што апахмяляўся!

Усе былі радасна ўзбуджаны. Ішоў 1920 год, і «банкет» быў на той час проста шыкоўны. Гаманілі, спявалі і гаварылі, гаварылі, гаварылі... Ждановіч расказваў Купалу пра новую пастаноўку «Раскіданага гнязда», у якой не будзе ні містыкі, ні сімволікі, а Незнаёмы стане ўсім знаёмым. Усе пазнаюць у ім рэвалюцыянера, які прыйшоў падымаць сялян на барацьбу за волю.

У невялічкай зале было цесна. Я выбраў момант і ціха шмыгануў за дзверы, але ў сенцах наткнуўся на сабаку. Я спалохаўся і ўціснуўся ў кут. Раптам дзверы адчыніліся, высвятліўшы сенцы. Купала крыкнуў:

— Рэкс, на месца! Хто тут? Ты куды, хлопча?

— Хачу да хаты, пара і меру ведаць.

— Як да хаты, калі на стале яшчэ талеркі не прыбраныя. Ты мне ўсіх гасцей да пары падымеш.

### ІМПРАВІЗАЦЫІ

Генеральныя рэпетыцыі, як заўсёды, доўгія і нудныя. Сядзець даводзіцца часам да поўначы, а то і да раніцы, затрымліваюць перастаноўкі дэкарацый, манціроўка спектакля. У акторнях у перапынках шумна і весела, збіраюцца акцёры, гамоняць, расказваюць розныя гісторыі.

Крыловіч не любіў шуму-гаму, бесталкоўшчыны, нястрымнага рогату ад анекдотаў, ён заўсёды сядзеў каля акна ў акторні, засяроджаны, маўклівы, рыхтуючы сябе да наступнага выхаду. Адпачываць яму дапамагала музыка. Каля яго на шырокім падаконніку стаяў баян, ляжала гітара, але часцей за ўсё ён браўся за самаробны музычны інструмент з доўгай планкі і нацягнутай на яе струны. Грамафонная мембрана і гукарэзанатар з ражка ад тагачаснай тэлефоннай трубкі стваралі гук. Уся гэтая музычная прылада ўстанаўлівалася паміж ног і заціскалася каленямі, каб не хісталася. Вібрыруючы пальцамі струну, Крыловіч вадзіў па ёй звычайным смычком ад скрыпкі і струна пяяла. То ціха, ледзь чутна, нібы шэптам, то пранізліва, як нейкі крык душы... Я любіў слухаць яго імправізацыі і чытаць. Мы сядзелі побач у акторні.

Як увайшоў Курдзін і прысеў у куточку, мы нават і не заўважылі, захопленыя кожны сваім. Раптам музыка абарвалася, і Крыловіч ускрыкнуў:

— Міця, галубок, што ж ты маўчыш! Сядзіш і не зварухнешся, нібы цябе тут і няма!

(Заканчэнне на 6-й стар.).

Цімох СЯРГЕЙЧЫК,
народны артыст БССР

## ЧАЛОМ ТАБЕ, ПАБРАЦІМ

Чытаю якіх пяць радкоў у «Тэатральнай энцыклапедыі» пра свой тэатр, а думаю і пра Першы БДТ, пра купалаўцаў. Прывяду гэтыя радкі: у тэатры імя Я. Коласа «...са спектакля «Разлом»... пачынаецца барацьба за сцвярджэнне рэалізму. У гэты час у т-ры актыўна працавалі А. К. Ільінскі, П. С. Малчанаў, К. М. Саннікаў, М. А. Міцкевіч, С. М. Станюта, Ц. М. Сяргейчык, А. П. Радзялоўская, М. С. Бялінская, Р. М. Кашэльнікава, Л. І. Мазалеўская, Я. К. Глебаўская, А. І. Лагоўская, М. І. Сянько і інш.». Сапраўды, мы калісьці былі адданымі і сталымі салдатамі таго падраздзялення беларускай сцэнічнай культуры, якое называлася Другі БДТ. Кожны з нас нешта зрабіў для свайго калектыву. Толькі перабярыце гэтыя прозвішчы— колькі з названых акцёраў і рэжысёраў потым звязалі свой лёс з Першым БДТ, увайшлі ў купалаўскую трупу і прынеслі ёй добры плён!

Або ўспомніце драматургаў—ад выпрабаванага ветэрана Кандрата Крапівы да маладога Анатоля Дзялендзіка—і тут абодва беларускія тэатры мелі агульных аўтараў. Мы разам паглыбляліся і паглыбляемся ў жыццё, каб даць вобразны малюнак яго, каб раскрыць сродкамі сцэнічнага мастацтва яго дыялектычна супярэчлівыя працэсы.

Так, Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы і Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Коласа—пабрацімы. Таму і юбілей, 50-годдзе з дня нараджэння купалаўскага—гэта хвалюючая падзея для нас, коласаўцаў.

У нашай дружбе і нашых узаемаадносінах не ўсё, вядома, было роўным. Здаралася, мы «перахоплівалі» адзін у аднаго рэпертуарныя навінкі, раўнавалі акцёра або актрысу, калі тыя былі перабежчыкамі, спрачаліся адносна гастрольных маршрутаў. Прыкра бывае назіраць, як такія адметныя па творчым паходжанні, і па стылявых прыхільнасцях калектывы, здараецца, паўтараюць адны і тыя ж прыёмы раскрыцця драматургічных твораў. Гэта насцярожвае—а ці не губляем мы прыкметы непаўторнага аблічча, без чаго тэатр не можа дастойна выконваць сваю мастацкую місію!

Але пераважае нешта высакароднае, патрэбнае абодвум тэатрам. Гэта ж так хораша—жыць у мастацтве, адчуваючы плячо пабраціма! Нам, коласаўцам, радасна бачыць высокую сцэнічную культуру лепшых спектакляў і таленавітых майстроў Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Мабыць, не выпадкова напісалася ў мяне слоўца «лепшых». Ніякі юбілей не дае права нам, дзеячам тэатра, супакойвацца і закрываць вочы на тое, што было зроблена ніжэй нашых магчымасцей. А купалаўцы ўдвая ў адказе перад народам—гэта ж акадэмічная сцэна.

Ад імя коласаўцаў зычу ім і ў гэтыя дні быць патрабавальнымі да сябе і добра ўзважыць свае здабыткі і свае страты, каб далей рухацца больш упэўнена. А гэта не так лёгка, бо старая гвардыя славутых чарадзеяў сцэны саступае месца моладзі. І моладзь трэба выхоўваць у духу лепшых традыцый беларускай тэатральнай культуры. І не толькі на станоўчым прыкладзе, а і на праліках і недахопах. Тэатр, які ведае і вывучае свой вопыт, умее ачысціць зерне ад паловы, упэўнена глядзіць і ў заўтра. Спадзяёмся, што купалаўцы цяпер якраз і складаюць такі калектыў.

Чалом табе, тэатр-пабрацім! Зычым ясных вяршынь наперадзе і аддаём нізкі беларускі паклон тым, хто стварыў тваю славу і твой гонар, хто выводзіў цябе на шырокі абсяг творчасці—праўдзівай, народнай, партыйнай.

Міхаіл ДЗЯНІСАЎ,
народны артыст БССР

## ТАК ТРЫМАЦЬ!

Першы Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр, народжаны ў агні рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, 14 верасня 1920 года, заявіў аб сваім існаванні. Чырвоны лісток у календары беларускай культуры!

Падумайце — ў рэспубліцы, у якой да рэвалюцыі была пад забаронай беларуская мова, дзе цкавалася беларуская нацыянальная культура, адкрыўся тэатр. Тэатр не толькі загаварыў на мове свайго народа, на сцэне ажылі яго героі, вясёлыя і дасціпныя, дужыя і смелыя. Адна за другой з'яўляюцца п'есы «На Купалле», «Вяселле», «Каваль-ваявода», «Машэка»...

Я не збіраюся гартаць гісторыю тэатра. Мяне хвалявалі і хвалююць сустрэчы з акцёрамі і рэжысёрамі, з спектаклямі гэтага цудоўнага калектыву. Высокая культура акцёрскай працы здзіўляе і радуе.

Так здарылася, што з адным з рэжысёраў гэтага тэатра, Л. Літвінавым, лёс звёў мяне яшчэ задоўга да адкрыцця тэатра. Было гэта ў 1917—18 гадах у гімназічным драматычным гуртку. Тады гэта быў проста Лёва Гурэвіч. Ігралі мы пад кіраўніцтвам буйнейшага, як тады гаварылі, правінцыяльнага акцёра і рэжысёра Мікалая Балеслававіча Кайсарава. Было гэта ў горадзе Балашове, Саратаўскай губерні, куды ён трапіў як бежанец.

А праз колькі гадоў нечаканая сустрэча ў Мінску. Я ўжо артыст Беларускай опернай студыі, ён — вядомы рэжысёр. Тады і пачалася мая любоў да трупы купалаўцаў. Я палюбіў гэтых людзей за шчырасць пачуццяў, што пануе на сцэне, за самаадданасць, з якой артысты робяць сваю справу. Тады я, зразумела, не ведаў, што мне давядзецца пражыць побач усе пяцьдзесят гадоў, стаць сведкам узлётаў тэатра, разам дажыць да такіх часоў, калі яму будуць апладзіраваць у Маскве. Ну, і, канечне, не ўяўляў, што ён будзе Акадэмічным, а многія дзяўчаты і хлопцы, якіх ведаю, — народнымі артыстамі СССР.

А тады я ўсім сэрцам палюбіў «Паўлінку» з яе першымі выканаўцамі. Захапіла мяне беларуская сцэна. І цяпер, праз шмат гадоў, не магу без хвалявання ўспамінаць Ул. Крыловіча ў ролі Мароза і Ул. Уладамірскага ў ролі Цыганка ў п'есе «Гута» Р. Кобеца. А хіба можна забыцца на такіх рэжысёраў і акцёраў, якія, на жаль, не ўдзельнічаюць разам з намі ў свяце, як Г. Грыгоніс, М. Зораў, К. Саннікаў, Г. Глебаў, Б. Платонаў. Перад памяццю іх мы нізка схіляем галовы.

Гэтыя выдатныя артысты зрабілі моцны ўплыў не толькі на тых, хто працаваў побач з імі, а і на нас — артыстаў опернай сцэны Беларусі. І ў юбілей тэатра мы ад шчырага сэрца гаворым купалаўцам: «Так трымаць»!

«Так!» — маючы на ўвазе тыя шчаслівыя часы ўзлётаў, калі тэатр уздымаўся да вяршынь, вартых яго высокага звання Акадэмічны. Хай і надалей тэатр будзе патрабавальны і прынцыповы, каб мець права заставацца правафланговым, на якога раўняліся б усе тэатры рэспублікі.

Так трымаць!

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА.

Ул. МЕХАЎ

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА ІВАНА ПУЛІХАВА

*Меркаванне, што ў губернатара Курлова была кінута абясшкоджаная бомба, пацвердзілася*

ПАЧУЦЦЁ, якое зараз я адчуваю, знаёмае, мусіць, не аднаму даследчыку. Адначасова і радасць, і крыўда. Радасць ад таго, што адкрыў для сябе, а значыць і для справы, якую задумаў, нейкія важныя рэчы, пра якія раней не ведаў. Крыўда—толькі на сябе, вядома,—што гэтага не здарылася на пэўны адрэзак часу раней. Бо тады б даследаванне, якое лічыў ужо больш-менш завершаным, якое ўжо адважыўся нават прапанаваць чытачу, выглядала б паўней.

Колькі разоў у мінулым гартаў я часопіс «Каторга и ссылка» — надзвычай цікавае для кожнага, хто займаецца рэвалюцыйным мінулым краіны, выданне, што выходзіла ў Маскве з пачатку дваццатых да сярэдзіны трыццатых гадоў. А вось жа неяк не ўспомніў пра яго, выпусціў з-пад увагі, калі пісаў свой нарыс «Слухаецца справа аб замаху» («Літаратура і мастацтва» №№ 43—45 за г. г.). Між тым, успомніць, аказваецца, было варта.

Чытачы, якіх хоць крыху зацікавілі падзеі і герой нарыса, зразумеюць, чаму я так узрушаны: у снежаньскім нумары часопіса за 1923 год і ў студзеньскім за 1924 год надрукаваны мемуары Аляксандры Ізмайловіч. І паведамляе Ізмайловіч шмат дэталяў, якія яшчэ паўней, падрабязней вымалёўваюць дзеючых асоб і падзеі нашага даследавання. А шмат у чым і ўдакладняюць, папраўляюць маё ранейшае аб іх уяўленне.

Успаміны пісаліся Ізмайловіч у 1908 годзе, калі яна знаходзілася на Нерчынскай катарзе, у Мальцаўскай жаночай турме, і перапраўляліся на волю нелегальна. Таму натуральна, што карціна самога замаху і падрыхтоўкі да яго падаецца вельмі асцярожна і амаль не дапаўняе вядомага нам з матэрыялаў следства і суда. Запіскі маглі патрапіць у рукі жандараў, і Ізмайловіч паставіла б пад удар таварышаў, калі б назвала новыя імёны і акалічнасці. Таму (ва ўсякім разе, мне здаецца, што таму) запісвае яна толькі свае адчуванні, думкі, падрабязнасці, якія, пры ўсёй іх цікавасці для таварышаў яе, для будучых даследчыкаў, у той жа час не ўзбагацілі б чым-небудзь карысным, новым, невядомым паліцыю і ахранку.

Хто чытаў нарыс, той памятае, напрыклад, што на судзе і ў часе следства Пуліхаў расказваў, як доўга і настойліва сачыў за Курловым, чакаючы зручнага для замаху моманту. Ізмайловіч сваімі запіскамі дэталізуе гэты расказ. Мы даведваемся, што, каб не выпускаць губернатара з вачэй, яна і адзін з яе таварышаў—паводле фальшывых пашпартаў, жонка і муж—нанялі супраць дома Курлова кватэру. «Арыгінальная кватэра: гарышча было не над ёю, а на адным узроўні з ёю, прымыкала з трох бакоў, і адно са слыхавых вокан гарышча выходзіла якраз візаві пад'езда губернатарскага дома. Холад быў там неверагодны, мы не саграваліся ні днём, ні ноччу». На гэтай канспіратыўнай кватэры — Ізмайловіч называла яе «Паўночным полюсам» — жыў, нікуды не выходзячы некалькі тыдняў перад замахам, і Пуліхаў. І сюды ж на цэлых дзесяць дзён прывяла Ізмайловіч сваю сястру Кацярыну і яе таварышку Цыву Левіну пасля таго, як 2-га студзеня яны ўцяклі з Мінскай жаночай турмы (сама Аляксандра Ізмайловіч была актыўным арганізатарам гэтых уцёкаў).

«Такое сумяшчэнне — кватэра, адкуль сочаць, і прытулак для ўцекачоў з турмы, пярэчыла ўсім правілам канспірацыі, — зазначае Ізмайловіч. — Але, з другога боку, больш надзейнага сховішча для іх не было. Выехаць з Мінска нельга было — на ўсіх вакзалах надзвычайна сачылі. На вуліцы спынялі юнакоў 16—18 гадоў і пыталі і аглядалі — вырашылі, відаць, што ўцякачкі перапранаюцца хлапчукамі...»

Запіскамі сястры не пацвярджаецца меркаванне, выказанае мною ў нарысе, быццам Пуліхаў і сама Аляксандра Ізмайловіч, чакаючы ў Мінскай турме суда, не ведалі, што «невядомая, што страляла ў Чухніна» (як вы памятаеце, гэта словы з перадсмяротнага пісьма Пуліхава) — Кацярына Ізмайловіч. На самой справе ўсё было і больш складана, і больш драматычна. І Аляксандра Ізмайловіч, і Пуліхаў **ведалі**, хто назваў сябе Марыяй Крупніцкай, пра няўдалы замах якой і трагічны лёс пасля замаху шырока пісалі тады газеты. Ведалі, бо Кацярыне, аказваецца, і ўцёкі з Мінскай турмы былі наладжаны менавіта таму, што падполле даручыла ёй замах на Чухніна. Найцяжэйшым ударам была для таварышкі Пуліхава і яго самога звестка пра расправу адміральскай аховы з адважнай. Ударам тым большым, што боль нельга было нікому выявіць, нікому паказаць — толькі чатыры чалавекі ў турме (у тым ліку самі Аляксандра Ізмайловіч і Пуліхаў) і, мабыць, не больш за сценамі турмы ў горадзе ведалі тады сапраўднае імя маладой жанчыны, без суда расстралянай па загадзе параненага Чухніна (нават не самога Чухніна, а яго жонкі). І можна ўявіць, як сціскалася сэрца Пуліхава, калі, таропка накідваючы перадсмяротнае пісьмо, у пераліку дарагіх яму жаночых імён, замест «Кацярына Ізмайловіч» (да суда Аляксандра Ізмайловіч некалькі разоў атрымлівала ад яго запіскі, што ён «не можа прымірыцца з тым, што Каці няма больш») ён пісаў «невядомая, што страляла ў Чухніна». Інакш нельга было — нават на мёртвую Кацярыну яшчэ пашыраліся патрабаванні канспірацыі...

Некаторыя аўтары ранейшых публікацый пра замах на губернатара Курлова і яго ўдзельнікаў з лёгкасцю незвычайнай абмалёўвалі аднымі чорнымі фарбамі генерала А. В. Ізмайловіча — бацьку Аляксандры і Кацярыны: маўляў, не з'явіўся на суд, адмовіўся ад дачок і г. д., і да т. п. Таму я хачу прывесці цытату з успамінаў, якая паказвае, што ніякіх падстаў для такога ачарнення старога генерала няма. Ад сваіх дачок-рэвалюцыянерак ён не адмаўляўся і не праклінаў іх. У пачатку сакавіка 1906 года, дзён праз дваццаць пасля суда, Аляксандру Ізмайловіч перавезлі з Мінска ў Маскву, каб выправіць адсюль са спадарожнікамі-катаржанамі ў Сібір. Праседзела яна ў Маскве, у славутых Бутырках, аж да канца чэрвеня. І вось тут «...напярэдадні майго ад'езду ў мяне быў бацька, які толькі цяпер вяртаўся з вайны. Яму далі доўгае спатканне (уласна, мы самі кончылі яго) і пасадзілі нас у асобны пакой, зусім пусты. Ён быў вельмі журботны і, відаць, уражаны маім вясёлым настроем. Пытаў пра Кацю. Ён нічога не ведаў, але падазраваў, і падазрэнні яго былі блізкія да праўды. Я не сказала праўды, бо сёстры (ім Аляксандра расказала пра лёс Кацярыны ў час спатканняў у турме ў Мінску. — **У. М.**), не спадзеючыся на маё ўменне зрабіць гэтую аперацыю, узялі яе на сябе. Праз некалькі дзён ён павінен быў даведацца ад іх... Паехаў на вайну, а за яго спіною ўнутраная вайна адабрала ў яго дваіх — адна забітая, другая ў палоне...»

Ці ж няпраўда — сітуацыя самага высокага драматычнага напалу!

Крыху раней успамінаўся бацька Аляксандры ў сітуацыі іншай — таксама драматычнай, але крыху і забаўнай. Судзілі яе і Пуліхава ў вядомых мінчанам-старажылам Калачоўскіх казармах, на Петрапаўлаўскай вуліцы (цяпер вул. Энгельса). І вось «...азіраючыся па баках, я раптам застыла ад нечаканасці. Гэта была сапраўдная іронія лёсу. Над нашымі крэсламі на сцяне вісеў партрэт майго бацькі — начальніка артылерыі корпуса ў Мінску». І потым, пасля перапынку «...мы зноў сядзім каля бацькавага партрэта. Ён са сцяны сурова слухае, як яго дачцы ўжо змацоўваецца гатовы прыгавор...»

На старонках успамінаў і шмат іншых цікавых, невядомых нам раней дэталяў суда і адчування на ім дзеючых асоб нашага даследавання. Хіба не цікава, напрыклад, што старшыня суда вельмі баяўся, каб салдаты не набраліся ад падсудных крамолы. За пятнаццаць—дваццаць мінут, пакуль яны гаварылі свае прамовы, варта мянялася ў зале некалькі разоў — цалкам праслухаць прамовы не далі ніводнаму з вартавых!

А сустрэча падсудных твар у твар з Курловым? Нічога не скажаш — выглядае ён ворагам моцным і не дробнага характару. «Для яго паставілі крэсла перад судзейскім сталом, мусіць, для пашаны, як губернатару, але ён стаяў, як і ўсе сведкі. Відаць было, што ён адчуваў сябе няёмка, бянтэжыўся, але яго збянтэжанасць была прыкрыта вялікай вытрымкай. Мы з Васем (Вася — канспіратыўнае імя Пуліхава. «Мы заўжды яго называлі Васем, — піша Ізмайловіч далей, — так моцна прыжылася да яго гэта канспіратыўная клічка». — **У. М.**) глядзелі на яго ва ўсе вочы. Як закаханыя прагнуць спаткання, так горача мы чакалі, бывала, на волі яго выезду. Цэлыя дні сачылі мы за яго пад'ездам, застаючыся самі нябачнымі яму і яго ахове. Цяпер ён стаяў за тры крокі ад нас, ён, наш жаданы, наш доўгачаканы. Цяпер мы былі яго палонныя, ён — пераможца. Так было фізічна, але не было так псіхалагічна...»

І далей:

«Курлоў павярнуўся, каб выйсці. Некалькі крокаў ён павінен быў прайсці тварам да нас, зусім блізка. Мы глядзелі яму ў вочы. Памятаю, я адчула на сваім твары ўсмешку. Нядобрая, мабыць, была гэтая ўсмешка. Увесь час, пакуль ён стаяў перад абаронцам, ён упарта хаваў вочы свае, ні разу не зірнуў яму ў твар. Цяпер ён ішоў, усё гэтак жа хаваючы вочы, і раптам, нібы не могучы процістаяць нашаму ўпартаму позірку, ён сустрэўся з нашымі вачыма. Гэта было толькі адно імгненне, страшна кароткае і заўважанае намі, мусіць, толькі трыма. Зірнуў і імгненна забегаў вачыма. Гэтага кароткага імгнення было дастаткова для нас: мы прачыталі, як у яго позірку маланкай прабеглі чыста жывёльны спалох і нікчэмная разгубленасць. Не ён быў пераможцам!..»

Шмат у чым дапаўняюць запіскі Ізмайловіч нашы звесткі пра біяграфію, характар, чалавечыя рысы Івана Пуліхава. Піша яна, што гэта быў маўклівы, сарамяжны, праўдзівы чалавек. Толькі сам-насам з субяседнікам ён рабіўся гаваркім. І гаварыў тады доўга і многа. Рэдка выказваў ён сваю думку гатовую. Амаль заўсёды відаць было, як яна ў ім нараджаецца, як акрэсліваецца ўсё больш выразнай і закончанай. Паводле Ізмайловіч, гэтая рыса была вынікам таго, што Пуліхаў амаль усё сваё жыццё быў адзін і гаварыў пра сур'ёзныя, глыбокія рэчы толькі з сабой.

Старэйшы ў велізарнай сям'і ўсіх узростаў, ён рана перайшоў на самастойны хлеб — нешта з трэцяга ці чацвёртага класа рэальнага вучылішча пачаў даваць урокі. «З шостага класа ён ужо ладна зарабляў і жыў асобна ад сям'і. Лёс звёў яго са старым рэвалюцыянерам: ён наняў пакой у аднаго беднага чыноўніка, ідэаліста і рэвалюцыянера. Той адкрыў яму вочы на ўсё. З квасного патрыёта Вася стаў чырвоным».

Потым Пецярбург, універсітэт. Тут Пуліхаў церпіць страшэнныя нястачы. «Пакуль былі землякі-таварышы, ён неяк перабіваўся з іх дапамогай. Ды летам, калі яны раз'ехаліся, яму стала зусім кепска. Начаваў у садах і скверах— не раз гарадавыя саштурхвалі яго з лавак — або ў начлежным доме».

Цэлыя дні Пуліхаў праводзіў у публічнай бібліятэцы. Быў ён зусім змучаны голадам і бяссоннымі начамі і неяк, прыкрыўшыся тоўстым фаліянтам, заснуў за сталом. «Кніга з грукатам выпала з рук, і сам ён ледзь не зваліўся з крэсла. Згарэў было ад сораму, але ўратавала шчаслівая знаходка: сказаў, што раптоўна самлеў».

Мы памятаем, што ў Пецярбурзе нейкі час Пуліхаў праседзеў у турме.

«Не хацелася выходзіць на волю, — жартаўліва гаварыў ён Ізмайловіч, — не паспеў кончыць Маркса «Капітал». Наша ж доля такая — толькі ў турме і чытаеш».

«Адарваўшы ад Маркса, — працягвае гэтыя ўспаміны Ізмайловіч, — яго выслалі на радзіму ў Мінск. Тут ён жыў урокамі. Зарабляў па-нашаму многа, рублёў шэсцьдзесят, і амаль усе грошы аддаваў с.— раўскаму камітэту, як і ўвесь час, вольны ад урокаў. Тут я пазнаёмілася з ім на рабоце...»

Пра тое, што таварышы хацелі наладзіць Пуліхаву ўцёкі з турмы, мы ведалі і раней. І ў нарысе маім, і ў ранейшых публікацыях іншых аўтараў пра гэта ўспамінаецца. Але цяпер мы маем уяўленне, якім чынам Пуліхаў павінен быў уцячы:

«...Карл (палітзняволены, друг Ізмайловіч.—**У. М.**) прастукаў мне, што займаецца наладжваннем Васевых уцёкаў.

— Тваё жыццё ужо факт. Васю ж могуць павесіць, і яго трэба вырваць,— стукаў ён.

Праз некалькі дзён пасля гэтых слоў я, вярнуўшыся з канторы са спаткання з сёстрамі, знайшла ў сваёй вежы сляды асабліва стараннага вобыску; відаць было, што нават лазілі на печку. Над галавой я пачула тупат ног і нейкую валтузню. Увечары Карл прастукаў мне:

— Усё прапала.

Аказалася, што Вася павінен быў у гэты дзень вылезці праз дзіру ў сваёй столі ў камеру крымінальных і, пераапрануўшыся крымінальным, уцячы адразу ж, здаецца, з Сатаной і яшчэ адным крымінальным катаржанінам, якім удасца шляхам. У апошні момант супольнікі Васі праламалі дзірку ў яго столі. Васю заставалася толькі падняцца. Зайшоў зусім выпадкова наглядчык. Дзіра была заўважана. І ўсё загінула. Адразу ж заявіліся да мяне з вобыскам, затым наверх да Карла...

Карл быў прыгнечаны. Ён увесь заняты быў гэтыя дні падрыхтоўкай свабоды і жыцця для Васі. Паспеў паверыць ужо, што Вася будзе свабодны, і раптам гэтая праклятая, жахлівая выпадковасць. Зайдзі наглядчык на паўгадзіны пазней, і ён знайшоў бы ўжо Васеву камеру пустою...»

Як яна памылялася, Ізмайловіч! Як памыляліся ўсе сябры Пуліхава! Нам сёння вядома больш, чым ім. «Праклятая, жахлівая выпадковасць...» Не было выпадковасці! Была здрада, данос падлюгі Хахлова (чытачы памятаюць, мусіць, пра яго і з майго нарыса, і з ранейшых публікацый хахлоўскага пісьма). І ад гэтага ведання — горка.

І яшчэ больш горка за лёс Пуліхава ад таго, што замах яго, аказваецца, З САМАГА ПАЧАТКУ БЫЎ АСУДЖАНЫ НА НЯЎДАЧУ.

Чытачы, мусіць, памятаюць з нарыса «Слухаецца справа аб замаху», што ў Мінскай губерні праваліліся з аднае і тае ж прычыны — не ўзрывалася бомба — адзін за адным тры тэрарыстычныя акты. З гэтай прычыны я выказаў падазрэнне — ці не былі тыя бомбы загадзя нядобрай рукой пашкоджаны. І вось цяпер знойдзены звесткі, якія гэтае меркаванне пацвярджаюць. Здавалася б, такое адкрыццё павінна прынесці даследчыку радасць. Але не прынесла. Настолькі яно жудаснае.

У 1924 годзе ў Парыжы выйшлі мемуары былога віднага дзеяча царскай ахранкі П. Заварзіна. І ў гэтых мемуарах Заварзін паміж іншым паведамляе, што БОМБА, ЯКУЮ КІНУЎ ПУЛІХАЎ, БЫЛА ПАПЯРЭДНЕ АБЯСШКОДЖАНА Ў МАСКОЎСКІМ АХРАННЫМ АДДЗЯЛЕННІ. Туды прынесла яе правакатарка Жучэнка, якой баявікі даручылі перавезці бомбу з майстэрні ў Мінск. Ахраннае аддзяленне вырашыла не затрымліваць у сябе бомбу і не праводзіць у Мінску раней часу арыштаў: гэта магло б праваліць каштоўную для ахранкі супрацоўніцу. Зрабілі інакш — абясшкодзілі запальнік бомбы і пераслалі яе па прызначэнні, каб замах адбыўся, а чалавек, які кінуў бясшкодны снарад, пайшоў на шыбеніцу.

Сам Заварзін адчуваў, відаць, што нешта ў гэтай гісторыі дужа ж агіднае, бо дадае, што «мятальнік бомбы... пакарання не панёс». Цяжка паверыць, што афіцэр ахраннага аддзялення, праз рукі якога прайшла кінутая ў Мінску бомба, сапраўды не ведаў пра смерць Пуліхава ў пятлі і катаргу Ізмайловіч...

А Жучэнка — што стала з ёю? Хто яна наогул такая? — можа ўзнікнуць у некаторых чытачоў пытанне. Бо сёння імя Зінаіды Фёдараўны Жучэнка ўжо мала што гаворыць чытачам, асабліва маладзейшым. Але быў час, калі разам з імем Азефа, Серабраковай, Маліноўскага яно гучала, як увасабленне самай чорнай подласці. Калі ў 1909 годзе супрацоўніцтва Жучэнкі з ахранным аддзяленнем (тут яна насіла клічку «Міхееў») было выкрыта, дэпартамент паліцыі прызначыў ёй велізарную пажыццёвую пенсію. Іюдавымі сярэбранікамі здрадніцы плацілі за прададзеныя баявыя дружыны, за выратаванне асуджаных рэвалюцыйным падполлем на смерць царскіх саноўнікаў, за галовы павешаных і адпраўленых на катаргу смельчакоў. Цяпер мы ведаем — за гарачае сэрца Івача Пуліхава таксама.

Стала гэта вядома толькі праз васемнаццаць гадоў пасля таго, як Пуліхаў апошні раз убачыў над галавой неба...

# ЧАСОПІСЫ Ў ВЕРАСНІ

**«ПОЛЫМЯ»**

У дзевятым нумары часопіса чытачы знойдуць новыя вершы Максіма Танка, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава, фрагмент з рамана Міхася Машары «Ішоў дваццаты год», апавяданне Міколы Гроднева «Васіль», артыкул Фёдара Куляшова «Самабытны талент», прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння А. І. Купрына, і аповесць «Алеся» выдатнага рускага пісьменніка ў перакладзе Л. Салаўя.

Пётр Чыгрынаў у раздзеле «Публіцыстыка» выступае з артыкулам «Выхаванне патрыётаў».

Часопіс заканчвае друкаваць нарыс Янкі Сіпакова «Па зялёную маланку».

Артыкул Міколы Арочкі «Маналогі паэтычных пакаленняў» змешчаны ў раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства».

«Купалаўцам — 50». Так называецца артыкул Яўгена Рамановіча, які надрукаваны пад рубрыкай «У свеце мастацтва».

У раздзеле «Сярод кніг» з рэцэнзіямі выступаюць Яўген Бараноўскі (на кнігу «Пісьмы працоўных Беларусі Ул. І. Леніну», якую склалі В. Давыдава і А. Кузняеў пад рэдакцыяй С. Пачаніна), Дзмітры Жмуроўскі (на кнігу С. Пачаніна «У навальнічным васемнаццатым»), Алег Слука (на кнігу А. Журава «Пад кіраўніцтвам партыі»), Адам Мальдзіс (на кнігу І. Баса «Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні»), Генадзь Шупенька (на кнігу Астапа Вішні «Усмешкі. Гумарыстычныя апавяданні»), Сямён Букчын (на кнігу І. Харыка «Выбранае». Пераклад з яўрэйскай мовы), Генадзь Каханоўскі (на кнігу «Бібліяграфія па гісторыі Беларусі. Феадалізм і капіталізм». Складальнікі М. Крэканэ, А. Сакольнік і Ю. Бібіла), Вячаслаў Шалькевіч і Ігар Рабкоў (на кнігі А. Кляўчэні «Стэфан Рудненскі» і «Светапогляд Уладзіслава Спасоўскага»).

Артыкул Марата Батвінніка «Брацкія школы» надрукаваны ў раздзеле «Старонкі нашай гісторыі».

Заканчваецца часопіс, як звычайна, раздзелам «Хроніка».

**«МАЛАДОСЦЬ»**

Часопіс знаёміць чытачоў з драматычнай аповесцю Аркадзя Маўзона «Людзі, агонь і смерць», апавяданнямі Уладзіміра Караткевіча «Вока тайфуна» і Аляксандра Купрына «Гамбрынус» (пераклаў з рускай Л. Салавей), паэмай Уладзіміра Скарынкіна «Дарога ў неба», вершамі Генадзя Бураўкіна, Валянціна Лукшы, Валянціны Хамчук, а таксама вершамі паэтаў Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам Вінь Ле і Ань Тхо (пераклад Язэпа Семяжона).

Першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Уладзімір Падрэз расказвае аб баявым і гераічным шляху камсамола рэспублікі ў артыкуле «Нашай маладосці сцяг».

Увазе чытачоў часопіс прапаноўвае фотарэпартаж Валянціна Ждановіча «Свята на зямлі партызанскай», успаміны Героя Савецкага Саюза Рамана Мачульскага «Заўсёды на пярэднім краі», якія надрукаваны пад рубрыкай «Дарогамі бацькоў», замалёўкі Ларысы Мурашка «Кур'ер Марыя Сурага» і Ціхана Піскунова «Камсамольскае сэрца», нататкі Івана Калесніка з Лукомльскай ДРЭС «Лінія напружання» і многія іншыя матэрыялы, большасць з якіх прысвечана камсамольскаму юбілею рэспублікі.

У раздзеле «Кнігі і час» змясцілі свае рэцэнзіі Міхась Модэль (на кнігу Яўгена Рамановіча «Рэкі цякуць з ручаёў») і Сцяпан Грабчыкаў (на кнігу Адама Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе»).

Часопіс заканчвае публікацыю падарожных нататкаў Алеся Бачылы «Пасля дарогі», прысвечаных М. Багдановічу.

Прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Рыгор Трухноў выступае на старонках часопіса з артыкулам «Цень свастыкі».

**«БЕЛАРУСЬ»**

Нумар адкрываецца артыкулам першага сакратара ЦК ЛКСМ Беларусі Уладзіміра Падрэза «У авангардным страі», які прысвечаны 50-годдзю камсамола рэспублікі. Гэтай жа даце прысвечана і выступленне Міколы Хведаровіча «Юнацтва камсамольскае». На старонках часопіса чытачы знойдуць замалёўкі Ярослава Пархуты пад агульнай назвай «Спадчыннасць», артыкулы В. Саковіча «Роздум у дарозе» і Яўгена Рамановіча «Да новых творчых здзяйсненняў», які надрукаваны пад рубрыкай «Беларускаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы 50 год», нататкі А. Суслава «Сервіс па-польску».

З новымі вершамі ў нумары выступаюць Пятрусь Броўка, Аляксей Зарыцкі, Антон Бялевіч, Мікола Чарняўскі. Часопіс знаёміць чытачоў з маладой паэтэсай Таццянай Дзмітрусёвай.

У нумары змешчаны апавяданні Івана Навуменкі «Касцюм старэйшага брата», Наталлі Кедалавай — «Хвалі Дуная», працяг аповесці Дануты Маеўскай «А восьмай вечара...» (пераклад з польскай М. Паслядовіча), а таксама апавяданне А. Купрына «На глушцоў» у перакладзе з рускай Л. Салаўя.

Свае рэцэнзіі ў нумары надрукавалі А. Гардзіцкі (на раман І. Шамякіна «Снежныя зімы»), І. Сучкоў (на паэтычны зборнік А. Шарапава «Лісце гадоў»), М. Вішнявец (на зборнік выступленняў працаўнікоў вёскі «Мы—з дынастыі хлебаробаў» у літаратурным запісе А. Бяржынскага).

**«НЕМАН»**

Часопіс друкуе аповесць Алеся Савіцкага «Самы высокі паверх» (пераклад з беларускай М. Гарбачова і Г. Папова), першыя апавяданні Аляксандра Зіноўева «У Рузе», Барыса Раланда — «Што гэта было», Любові Філімонавай — «Камень», вершы Анатоля Сізухіна, Валерыя Маскаленкі, Людмілы Ганчаровай, Навума Кісліка.

Да 50-годдзя камсамола Беларусі ў нумары змешчаны артыкул Аляксандра Сакалоўскага «Паўвека з партыяй». Публіцыстыка прадстаўлена таксама нарысам Анатоля Сілянкова «Дарога за ваколіцу».

У раздзеле «Запіскі, успаміны, дакументы» з артыкулам «У беларускім ТРАМе» выступае заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Уладзімір Стэльмах.

Штрыхі да творчага партрэта Івана Шамякіна «Па закліку сучаснасці» Е. Няронскай чытачы знойдуць у раздзеле «Крытыка».

З рэцэнзіямі ў кніжным аглядзе выступаюць А. Браілоўскі (на зборнік успамінаў былых партызан Беларусі «У адзіным страі»), В. Тарас (на кнігу Дануты Бічэль-Загнетавай «Белая Русь»), М. Батвіннік (на кнігу Адама Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе»).

Кароткія рэцэнзіі у нумары змясцілі Б. Казанаў (на аповесць Эрнеста Ялугіна «Камяні Млечнага Шляху»), В. Нікіфаровіч (на кнігу вершаў Давіда Сімановіча «Мінуты»), М. Гіль (на зборнік паэзіі лужыцкіх сербаў «Там, дзе Шпрэвя шуміць»), А. Мяснікоў (на кнігу М. Рожына «Газета «Паўночна-Заходні край»).

Артыкул Т. Вараб'ёвай «Лажэчнікаў у Віцебску» надрукаваны ў раздзеле «Знойдзена ў архівах».

## БЫВАЙ, АКЦЁРСКАЕ ЛЕТА!



*Час летніх адпачынкаў звёў у адну курортную групу прадстаўнікоў розных сцэн Беларусі. Ля марскога блакіту, пад зоркамі аксамітнага чорнага неба дні і ночы мінаюць так, што агледзецца няма калі. Аб'ектыў фотаапарата «схапіў» гэтую групу напярэдадні развітальных слоў і капеек, што кідаюць у мора, каб потым лёс вярнуў іх сюды зноў—(злева направа) заслужаных артыстаў БССР Міхаіла Шуманскага і Віктара Кірычэнку, народных артыстаў рэспублікі Сцяпана Бірылу і Расціслава Янкоўскага, заслужанага артыста БССР Васіля Ганчарэнку і народнага артыста БССР Мікалая Яроменку.*

*Аб чым думаецца ў такія хвіліны? У Мінску трэба атрымаць новую ролю, пазваніць на тэлебачанне, набыць сервант, падпісацца... Ага, так і ёсць—Расціслаў Янкоўскі, прыгадаўшы жарт з лімаўскай «Трасянкі», дае параду падпісацца на газету «Літаратура і мастацтва» ўсім калегам. Што ж, прыемна чуць рэха сваёй газеты ў вясёлым смеху артыстаў на беразе Чорнага мора...*

Фота Л. ЭЙДЗІНА.

## ЦЫРК ПРЫЕХАЎ...



**Ужо сёння мінскія аматары цырка ўбачаць Барыса Дзянісава на манежы.**

Цырк прыехаў! Цырк прыехаў! На кожным рэкламным шчыце ў Мінску можна ўбачыць маляўнічую афішу, якая паведамляе аб пачатку новага цыркавога сезона.

Сёння ў сем гадзін вечара Мінскі цырк запоўніцца гледачамі, прагучыць урачысты марш — і прадстаўленне пачнецца.

Білеты прададзены за месяц наперад.

Мінчане любяць цырк. Любяць цыркавыя відовішчы, дзе пануюць спрыт і грацыя, вытрымка і воля, прыгажосць і сіла, узаемавыручка і падтрымка...

За кулісамі і на арэне ідуць апошнія прыгатаванні, апошнія рэпетыцыі заўтрашняга спектакля.

— Раскажыце, калі ласка, што гэта будзе за праграма? — звярнуўся наш карэспандэнт да дырэктара Мінскага цырка М. Марусалава.

— Калі вы любіце цырк і ўважліва сочыце за ім, дык маглі пераканацца, што ўзровень прадстаўленняў за апошні час вельмі ўзрос. Бадай, у кожнай праграме ёсць нумары так званага экстракласа. У праграме, якую заўтра ўбачаць мінчане, гэта акрабаты-скакуны пад кіраўніцтвам народнага артыста РСФСР Ул. Давейкі, яны выконваюць рэкордныя трукі. Пазнаёмяцца гледачы і з заслужаным артыстам РСФСР М. Ягоравым, жанглёрамі, гімнастамі, клоунамі і іншымі абавязковымі ўдзельнікамі прадстаўлення, без якіх немагчыма ўявіць сабе цырк. Ну, а асноўнае месца ў праграме, яе соль, гэта — львы. Дрэсіроўшчык — Барыс Дзянісаў.

Міхаіл Міхайлавіч націскае на кнопку селектара:

— Запрасіце, калі ласка, Усевалада Барысавіча Дзянісава...

Ён перада мной — чалавек, якога называюць магічным словам «утаймавальнік». Немалады, з сівізной у валасах, з вялікімі спакойнымі вачыма.

— Нічога асаблівага ў рабоце са львамі няма,— гаворыць ён.—Проста львы павінны ведаць, што чалавек мацнейшы, мудрэйшы за іх. І яны скарацца. Канечне, у іх ёсць характар і, скажам шчыра, не вельмі добры характар. Але волі дрэсіроўшчыка, яго ўменню «зразумець» драпежніка заўсёды спадарожнічае поспех. Усё, што я здолеў набыць за трыццаць пяць гадоў работы ў цырку,—усё перадаю сваяму сыну Барысу, які будзе выступаць на арэне Мінскага цырка з групай львоў.

Барыс Дзянісаў вельмі малады. Яму ледзь споўнілася дваццаць гадоў. Сын у мінулым славутай паветранай гімнасткі-жанглёра Тамары Брок і дрэсіроўшчыка Усевалада Дзянісава, ён літаральна з малаком маці ўвабраў любоў да манежа, захапіўся непаўторным радасным і хвалюючым дзелавым і нялёгкім закулісным жыццём, назаўсёды абраў прафесію ўтаймавальніка львоў. Цырк — гэта яго прызванне, яго школа, яго жыццё.

— Мне падабаецца ўсё,— гаворыць Барыс.— салодкі пах пілавіння, цішыня глядзельнай залы, якая выбухае бурнымі апладысментамі і сам працэс перамогі над моцным і хітрым зверам. Выступленні ў Мінску—гэта як бы генеральная рэпетыцыя перад вялікай зарубежнай паездкай. Наперадзе — гастролі ў Аўстраліі.

— Думаю, што мінскіх гледачоў,— расказвае дырэктар цырка Міхаіл Міхайлавіч Марусалаў,—чакаюць цікавыя сустрэчы з праслаўленымі і маладымі артыстамі, і па старой традыцыі ля пад'езда цырка можна будзе ўбачыць гледачоў, якія прагнуць трапіць на прадстаўленне, пачуць словы: «Ці няма лішняга білеціка». Будзем сумленныя, для нас гэтыя словы, як бальзам.

# БЕЛАРУСКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА.

# ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ— ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

БЕЛАРУСКАЯ дзіцячая літаратура з'яўляецца па сутнасці равесніцай сацыялістычнага грамадства. У дакастрычніцкі час спрыяльных умоў для яе развіцця не было, твораў для дзяцей пісалася мала. Нельга, безумоўна, абыходзіць увагай паасобныя, адрасаваныя дзецям творы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, Зм. Бядулі, М. Багдановіча. Добра разумеючы вялікае ўздзеянне мастацкага слова на фарміраванне і выхаванне асобы дзіцяці, гэтыя пісьменнікі прыклалі шмат стараннняў, каб не застацца ў даўгу перад маленькім і юным чытачом. Але па-сапраўднаму шпарка і плённа стала развівацца ў Беларусі літаратура для дзяцей пасля Вялікага Кастрычніка. У сваім актыве яна мае сёння цэлую бібліятэку выдатных і таленавітых твораў, на якіх выхоўвалася не адно пакаленне дзяцей. Некаторыя з гэтых твораў з поспехам праклалі сабе шлях на ўсесаюзную арэну і з пазіцый самых высокіх мастацкіх крытэрыяў былі ацэнены такімі выдатнымі савецкімі пісьменнікамі, як М. Горкі, С. Маршак і інш. Прачытаўшы паэму Я. Коласа «Міхасёвы прыгоды», С. Маршак, напрыклад, з радасцю віншаваў «тых дзяцей, якім трапіць у рукі гэтая кніга, напісаная вялікім майстрам і сапраўдным паэтам».

На жаль, самі мы да абагульнення мастацкага вопыту, творчай работы дзіцячых беларускіх пісьменнікаў значны час былі не вельмі ўважлівыя. Нават і ў салідных літаратуразнаўчых працах разгляду і аналізу працэсаў развіцця літаратуры для дзяцей і юнацтва адводзілася звычайна вельмі ж сціплае, а іншы раз і проста другараднае месца (існуе, маўляў, у нас і дзіцячая літаратура). А гаворка, між тым, наспела тут сур'ёзная.

Становішча на гэтай ніве ў апошнія гады змянілася да лепшага. М. Пятровіч, А. Налівайка, І. Саламевіч склалі «Хрэстаматыю па беларускай дзіцячай літаратуры». У якасці метадычнага дапаможніка для студэнтаў-завочнікаў выйшла кніжка М. Яфімавай «Беларуская дзіцячая літаратура». Вучэбны дапаможнік па дзіцячай літаратуры напісаў калектыў аўтараў Магілёўскага педагагічнага інстытута.

А зусім нядаўна выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла буйную літаратуразнаўчую работу Э. С. Гурэвіч «Беларуская дзіцячая літаратура». У гэтай працы падагульняецца вопыт ранейшых даследаванняў, па-новаму і ў многіх выпадках упершыню ставяцца і вырашаюцца кардынальныя праблемы, звязаныя з тэндэнцыямі і заканамернасцямі развіцця беларускай дзіцячай літаратуры.

Перад даследчыкам стаяла цяжкая задача знайсці саму кампазіцыйную форму, якая б дастаткова трывала змацоўвала і аб'ядноўвала багаты, разнастайны па жанравых, стылявых, ідэйна-эстэтычных якасцях матэрыял. Існавала тут некалькі падыходаў. Э. Гурэвіч выбрала ў пэўнай меры традыцыйны шлях у асвятленні тэмы. У аснову кампазіцыі пакладзены і даволі строга вытрыманы гісторыка-хранагалагічны прынцып. Але гэты прынцып змог апраўдаць сябе ў рабоце таму, што падмацаваны ён пастаноўкай і вырашэннем важных праблем, дакладным улікам месца і ролі амаль без выключэння кожнага беларускага савецкага пісьменніка, які ўнёс свой уклад у агульную справу развіцця літаратуры для дзяцей. З. Бядуля, Я. Колас, У. Дубоўка, Я. Маўр, М. Лынькоў, Э. Агняцвет, В. Вітка, С. Грахоўскі, М. Танк, В. Вольскі, А. Якімовіч, Я. Брыль, М. Лужанін, А. Рылько і многія іншыя пісьменнікі не проста ўпамянуты, а паказаны ў сваіх агульных і індывідуальных мастацкіх праявах як стваральнікі беларускай дзіцячай літаратуры.

Разважлівы, спакойны акадэмічны аналіз добра ўжываецца ў рабоце з уменнем аўтара дыскусіраваць, палемізаваць. Палеміка тут, можна сказаць, апраўданы і мэтазгодны прыём, які часта дапамагае даследчыку раскрыць ісціну, акцэнтаваць увагу на важнай і нявырашанай праблеме, адкінуць штучнасць і схематызм тых ацэнак і «парад», якія не заўсёды садзейнічалі плённаму руху дзіцячай літаратуры.

У 20-я гады некаторыя крытыкі, напрыклад, змяншалі ці нават зусім адмаўлялі выхаваўчую і пазнаваўчую ролю літаратурнай казкі. У рабоце грунтоўна даведзена, што сама мастацкая практыка беларускіх пісьменнікаў абвяргала такі аднабаковы і спрошчаны погляд на казку, як жанр. Іскрыстыя, вясёлыя, займальныя і змястоўныя казкі тых часоў «Рак-вусач» Я. Коласа, «Мурашка - Палашка» З. Бядулі, «Музыка-чарадзейнік» і «Залатое дно» У. Дубоўкі, «Каваль Вярнідуб» А. Якімовіча сталі настольнымі кнігамі дзяцей, увайшлі ў залаты фонд нашай літаратуры. Раскрываючы ролю і значэнне фальклору ў развіцці і станаўленні беларускай дзіцячай літаратуры, асабліва на першым паслякастрычніцкім этапе, аўтар пераконвае нас, што народна-паэтычныя вобразы і матывы жывілі, актывізавалі і якасна ўзнімалі мастацкую думку найбольш і найчасцей тады, калі пісьменнікі не проста «ўключалі» ў свае творы фальклорны матэрыял, а пераплаўлялі і пераасэнсоўвалі яго ў адпаведнасці з надзённымі ідэйна-эстэтычнымі задачамі і патрабаваннямі часу.

Сур'ёзна пастаўлена і грунтоўна даследавана ў рабоце праблема псіхалагізму ў дзіцячай літаратуры. Не сакрэт, што і па сённяшні дзень тут яшчэ не ўсё да канца ясна і зразумела. Урэшце рэшт, не ўсё ясна і зразумела тут для некаторых пісьменнікаў, якія ў адных выпадках яўна завышаюць, пераацэньваюць у сваіх творах духоўныя магчымасці — мажлівасці дзіцяці, а ў іншых— гэтыя здольнасці і мажлівасці заніжаюцца, недаацэньваюцца.

Абапіраючыся на лепшыя мастацкія здабыткі беларускай дзіцячай літаратуры і на аўтарытэтныя педагагічныя даследаванні, Э. Гурэвіч робіць вывад, што агульная «шкала» псіхалагізму ў творах для дзяцей досыць рухомая. «Міколку-паравоза» М. Лынькова або прыгодніцкія творы Я. Маўра з цікавасцю чытаюць школьнікі сярэдняга школьнага ўзросту і старшакласнікі. Але зусім не ўлічваць узроставыя асаблівасці дзяцінства ўсё ж нельга, «бо мера псіхалагізму розная для кожнага асобнага ўзросту». Трэба пагадзіцца і з тым сцверджаннем аўтара, што адмаўленне псіхалагічнага аналізу, боязь раскрыць псіхалагічную напружанасць у творах для дзяцей па меншай меры азначае адмаўленне таго, што «дзеці думаюць, памятаюць, шукаюць, пакутуюць, адкрываюць свет вакол і ў саміх сябе».

Праўда, у асэнсаванні праблемы псіхалагізму ў рабоце сустракаюцца часам спрэчныя або недастаткова разгорнутыя палажэнні. Вось, напрыклад, аўтар гаворыць, што ў некаторых ранніх сваіх творах К. Чорны «дае занадта вялікую нагрузку дзецям, залішне драматызуе іх перажыванні». Усё гэта ў пэўным сэнсе так. Аднак тут, на наш погляд, варта было б падкрэсліць, што асобныя такія апавяданні пра дзяцей аўтар галоўным чынам адрасаваў даросламу чытачу. Таму ён і не вельмі абмяжоўваў сябе, калі завастраў псіхалагічныя калізіі, драматызаваў сюжэтнае дзеянне. Акрамя таго, пісьменнік ставіў тут перад сабою канкрэтную задачу. Ён імкнуўся абудзіць у дарослых максімальную ўвагу да дзяцей, незагартаваныя сэрца і душу якіх лёгка параніць, прычыніць ім пакуты і боль. Дарэчы, на такую завостраную псіхалагічную драматызацыю тэмы К. Чорны смела ішоў і ў некаторых творах пазнейшага часу. Яго вядомае апавяданне «Маленькая жанчына», прасякнутае глыбокім і напружаным драматызмам перажывання дванаццацігадовай дзяўчынкі, у першую чаргу таксама, відаць, было звернута сваім унутраным пафасам да салдата, франтавіка, партызана, ад якіх залежала выратаванне ад фашысцкай навалы сацыялістычнай Радзімы і яе маладой змены — дзяцей. Таму наўрад ці правамерна называць у такой катэгарычнай форме і псіхалагізм дзіцячых апавяданняў К. Чорнага 20-х гадоў, як «гіпертрафію ўнутраных перажыванняў».

Патрэба паставіць у больш цесны параўнаўчы план аналізу творы дзіцячай літаратуры і літаратуры «дарослай» вымагалася, на наш погляд, і ў некаторых іншых момантах работы. Такое параўнанне, вядома, пашырыла б межы і без таго шырокага, аб'ёмнага, шматпланавага даследавання. Але гэта магло б даць і свае станоўчыя вынікі, больш поўна выявіць сутнасць некаторых важных мастацкіх катэгорый. У прыватнасці, мы маем тут на ўвазе асвятленне сюжэта і сюжэтнасці ў дзіцячай літаратуры. Паводле слушнай заўвагі аўтара, «канцэпцыя сюжэта ў дзіцячай літаратуры пры ўсёй спецыфічнасці пытання грунтуецца на тых жа асноўных прынцыпах, што і ў літаратуры «дарослай». Вось тут якраз і цікава было б канкрэтна супаставіць некаторыя творы «дарослай» і дзіцячай літаратуры, наглядна паказаць спецыфіку іх сюжэтнасці і саму механіку займальнасці, якая набывае асабліва важнае значэнне ў творах для дзяцей. Аб гэтых сваіх заўвагах і пажаданнях смела гаворыш таму, што ў прынцыпе глыбокі аналітычны і абагульняючы лад работы, як сведчанне грунтоўнай тэарэтычнай падрыхтаванасці аўтара, дазваляе весці размову і дыскусію з ім з пазіцый высокіх патрабаванняў.

Характэрнай і станоўчай асаблівасцю даследавання Э. Гурэвіч варта назваць і тое, што беларуская дзіцячая літаратура на працягу пяцідзесяці год свайго развіцця разглядаецца ў цеснай узаемасувязі з усесаюзным мастацкім вопытам. Не абмінае аўтар, калі гэта ідзе на карысць асэнсавання той ці іншай праблемы, і прагрэсіўных мастацкіх традыцый сусветнай літаратуры. Асабліва тонкія і яскравыя паралелі праведзены тут з рускай савецкай літаратурай, як найбольш багатай і магутнай сваімі мастацкімі заваёвамі. Па гэтай лініі сувязей і кантактаў, справядліва гаворыць аўтар, беларуская савецкая дзіцячая літаратура заўсёды атрымлівала ад сваёй старэйшай сястры самую актыўную і шырокую ідэйна-эстэтычную падтрымку.

З работы вынікае зусім пэўны і ясны вывад, што наша айчынная дзіцячая літаратура не замыкала сябе ў вузкія нацыянальныя межы, не губляла свайго індывідуальнага каларыту і не парывала сувязей з роднай глебай, пракладваючы сваю самастойную плынь, заглыбляючыся ў псіхалогію дзіцяці і ў глыбіні беларускай савецкай явы. Пераканаўча і ярка, у прыватнасці, асветлена гэта тэндэнцыя на прыкладзе аналізу твораў Я. Маўра, важнай і сур'ёзнай школай мастацкай вучобы для якога былі прыгодніцкія раманы Фенімора Купера, Майн Рыда, Жуль Верна, Густава Эмара, Луі Жаколіо. Але вучоба гэта дала свой багаты плён таму, што не разыходзілася з унутраным духам і мастацкімі законамі развіцця беларускай дзіцячай літаратуры.

І яшчэ хацелася б сказаць пра адну добрую якасць работы: прынцыповасць аўтарскіх ацэнак. У адрас некаторых пісьменнікаў сказаны і горкія словы праўды. Але гэта не бязмэтнае крытыканства, а шчырае жаданне дапамагчы пісьменніку. Бо не сакрэт, што ў параўнанні з 20-мі або 30-мі гадамі беларуская дзіцячая літаратура пайшла ў многіх выпадках далей, глыбей узняла пласты рэальнасці, а дзесьці назіраецца і паслабленне ў развіцці акрэсленых раней плённых тэндэнцый. Такое паслабленне заўважаецца, напрыклад, сёння ў галіне прыгодніцкага жанру. Сваім зместам, шырынёй ахопу матэрыялу і глыбінёй праблемнасці кніга Э. Гурэвіч у пэўным сэнсе набліжаецца да курса гісторыі беларускай дзіцячай літаратуры і з'яўляецца сур'ёзным укладам у літаратуразнаўства.

**Васіль ЖУРАЎЛЁЎ.**

Э. С. Гурэвіч. Беларуская дзіцячая літаратура. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1970 г.

# АПОШНЯЯ КВАДРА

(Заканчэнне. Пачатак на 10 стар.).

Бела ўсюды ад снегу. Снег пайшоў нанава, яго ўжо было сагнала ўвесь, хлюпала толькі пад нагамі і на двары і на вуліцы гразь. Але вецер зайшоў з Курачовых Цянёў, пасыпаліся спачатку ў гразь дробныя калючыя крупы, тады зямля пачала сохці і бялець, браўшыся зноў у груду, і пайшоў снег—вясну яшчэ не пускала. Снег быў белы, чысты, свежы, ад яго аж сіне рабілася ў вачах, і пахла халодным полем і мяккай вільгаццю з лесу. Снег, здавалася, нанава схаваў усё на зямлі: сляды ад людзей, саней і жывёлы, і гразь, па якой гэтулькі прыйшлося хадзіць за сваё жыццё... Усюды было чыста. Ён, Андрэй, падняў дома на двары ля студні з зямлі вёдры—хадзіў па ваду. На снезе знаць ад іх чорныя кругі—вёдры працініснулі снег да зямлі. Большыя з меншымі—вёдры няроўныя—кругі чапляліся адзін за адзін, як усё роўна ля студні гулялі дзеці, наставіўшы іх на снезе...

...Балюта была блізка ля яго ў парозе, ён глядзеў ёй у вочы і чуў, што яму робіцца цяжка дыхаць.

Калі яна, ступіўшы, прыхінулася яму да грудзей, адразу, як стаяла, уся, лёгкая і нейкая добрая, што свая, ён злавіў яе, як усё роўна дзе наляту, каб яна не ўпала...

У вачах у яго пайшлі кругі ад вёдзер. Чорныя на белым снезе...

. . . . . . . . . . . . . . .

Усюды быў туман: на гародах за платамі, ля моста, у аселіцы, на грэблі, густы, белы, ён лёг на самую зямлю, і за ракой на Выганчыку нічо-

# ВОДГУЛЛЕ АКЦЁРСКАЙ СЛАВЫ

«Дзяўчынка ляжыць у высокай траве і чакае. Блізка, зусім побач гудзе чмель. Імклівым росчыркам праразае сіняву неба ластаўка. Ціха шапоча лісце. Дзяўчынка чакае: вось-вось празвініць званочак, і з'явіцца гномік у чырвоным каўпачку, якраз такі, як у казцы, якую расказвала цётка Фёкла Клемафасаўна. Ірынка чакае...» — так пачынаецца кніжка «Ірына Ждановіч» Клары Кузняцовай. Пагадзіцеся, што такі пачатак настройвае на лірычны лад чытача і адразу абуджае цікавасць да таго, аб кім гэта напісана. Народная артыстка БССР Ірына Фларыянаўна Ждановіч усё жыццё аддала сцэне. Адной і адзінай — яе цяпер называюць купалаўскай і акадэмічнай, а калісьці актрыса была сярод заснавальнікаў Першага БДТ. Яе творчы шлях у мастацтве — тэма для даследчыка невычэрпная. І кніжка К. Кузняцовай (дарэчы, выдадзеная вельмі своечасова — нібы да 50-годдзя тэатра) робіць добры і прыкметны крок у даследаванні і апісанні гэтага шляху.

Сказаўшы пра «даследаванне» і «апісанне», мы паспрабавалі і вызначыць асноўныя якасці зробленага аўтарам кніжкі. Калі К. Кузняцова паглыбляецца ў факты творчай біяграфіі актрысы, яна аналізуе і дае дакладныя характарыстыкі роляў і вобразаў з рэпэртуару І. Ждановіч. Каб пацвердзіць правільнасць сваіх высноў, спасылаецца на колішнія выказванні тэатральных крытыкаў і на ўспаміны калег і партнёраў па сцэне І. Ждановіч. Па-добраму ўважліва прасачыла К. Кузняцова за працэсам станаўлення актрысы, асабліва тое, што звязана было з садружнасцю паміж першым пакаленнем купалаўскай трупы і Еўсцігнеем Міровічам, выдатным педагогам і рэжысёрам. Гэта пад яго наглядам і на яго ўроках выпрацоўвала І. Ждановіч свой акцёрскі «почырк».

Цікавыя старонкі, дзе даецца аналіз здабыткаў артысткі ў спектаклях рэжысёра Л. Літвінава, пачынаючы з бліскучага выканання ролі Марылькі ў «Бацькаўшчыне» К. Чорнага. Вобразна кажучы, крытык паказвае, як смела кідалася І. Ждановіч у віры самых розных па стылі і па жанрах драматургічных стыхій. Іграла яна і падлеткаў (амплуа, якое завецца травесці). Па-грамадзянску востра характарызавала прадстаўнікоў розных сацыяльных колаў. І заўсёды для яе было важным быць у рэчышчы рэжысёрскай задумы спектакля, а грунт яна знаходзіла ў тэксце п'есы. І так часта плён акцёрскіх намаганняў І. Ждановіч бываў падзеяй у нашым тэатральным жыцці.

Скажам, у кніжцы даецца цытата з адной рэцэнзіі 1934 года пра «Канец дружбы» К. Крапівы: «Наўрад ці трэба шукаць асабліва багата эпітэтаў для характарыстыкі гэтых дзвюх актрыс. Мы з вялікім энтузіязмам павінны адным словам сказаць пра створаныя Ржэцкай і асабліва Ждановіч вобразы, словам — Здорава!»

І К. Кузняцова робіць правільна, калі, паведаміўшы нам пра такія «энтузіязныя» воклічы «здорава!», разглядае, што і як іграла артыстка на сцэне. Чытаем пра Майку з «Платона Крэчата» А. Карнейчука, пра Машаньку з аднайменнай драмы А. Афінагенава, пра Насцю з «Пагібелі воўка» Э. Самуйлёнка, пра Веру з «Апошніх» М. Горкага, пра Валю з п'есы «Жыццё вучыць» В. Галаўчынера, пра Аню з «Канстанціна Заслонава» А. Маўзона, і нас пакрысе захапляе духоўнае хараство гераінь, паказанае І. Ждановіч у кожнай ролі з новымі мастацкімі нюансамі і ў розных тэмпераментных напаўненнях. Надзвычай яркія назіранні К. Кузняцовай там, дзе яна параўноўвае Марыну з «Гэта было ў Мінску» А. Кучара і Насцю з «Пагібелі воўка» — тут чытач адчувае, як ад «намацвання» вобраза з дапамогай аўтара і рэжысуры І. Ждановіч ішла да творчай самастойнасці ў вырашэнні сцэнічнага вобраза.

Але спакваля даследчык саступае месца апісальніку, і тады К. Кузняцова робіць тэкст кнігі манатонным, аднастайным. Сказаўшы, што Л. Рахленка, напрыклад, вырашаў п'есу «Глыбокія карэнні» як сацыяльную драму, аўтар добрасумленна апісвае, што рабіла актрыса ў першай сцэне, у другой і г. д. Рэжысёрскае і артыстычнае ў спектаклі блытаецца з тым, што дыктуюць тэатру і выканаўцам драматургі. «Як» вельмі рэдка ўваходзіць у размову пра «што» ігралася на сцэне. Зразумела, калі такім чынам К. Кузняцова нібы аднаўляе, напрыклад, забыты цяпер спектакль «Фландрыя» В. Сарду, то і гэтыя старонкі цікавыя для цяперашняга чытача, але пэўная «скаванасць» даследчыка тэкстам і сітуацыямі п'ес тут ёсць. Таму, відаць, і некаторыя важныя тэзісы К. Кузняцовай застаюцца недастаткова пацверджанымі разглядам акцёрскай працы.

Так, на стар. 59 даецца важная заўвага: «Асаблівасць яе (Ждановіч) творчай індывідуальнасці, яе своеасаблівае мастацкае і грамадзянскае крэда — заўсёды ісці ў нагу з патрабаваннямі часу», хоць гэта «крэда» наогул савецкага мастака. А далей напісана так — «Яе гераіні заўсёды выклікалі тыя асацыяцыі ў гледачоў, якія хвалявалі іх. Вось чаму кантакт паміж гледачамі і актрысай быў заўсёды сталы і моцны». Выказана гэта не зусім дакладна, але затое катэгарычна. Ну, так ужо і «заўсёды»! Патыхае панегірыкам ад такога «заўсёды». Аднак галоўнае не ў гэтым. Асацыятыўнасць роздуму і пачуццяў гледача, народжаная ігрой І. Ждановіч, потым у кнізе ў адных выпадках ілюструецца пераканаўча (там, дзе мы «бачым» І. Ждановіч у сучасным рэпертуары), а ў другіх ніяк не пацвярджаецца (там, дзе гаворка ідзе пра гістарычныя і класічныя творы). А для пацвярджэння думкі пра «асацыятыўнасць» аўтар дае апісанне ігры І. Ждановіч, скажам, у ролі Людмілы ў п'есе «Позняе каханне». Апісанне само па сабе падрабязнае, дэталізаванае, ды толькі да крытычна-даследчага тэзісу яно не мае дачынення. Прыблізна такое ж уражанне пакідаюць старонкі, прысвечаныя вобразу Дыяны з «Сабакі на сене» Лопэ дэ Вэга.

Чаму мы звяртаем увагу на гэты пралік аўтара? Толькі таму, што К. Кузняцова — дэбютуе на ніве тэатральнай крытыкі, і ёй карысна зрабіць для сябе патрэбныя высновы на будучае. Калі даў тэзіс, разгортвай яго, не забывай, што прамовіў «а»...

Калі чытаеш кніжку далей і забываеш пра абяцанне весці гаворку пра тую ж «асацыятыўнасць», К. Кузняцова зноў захапляе цябе, напрыклад, «паказам» Джульеты — Ждановіч. І агульны тон, і дэталі тут, між іншым, яшчэ сагрэты пачуццём непасрэдных уражанняў аўтара ад спектакля ў Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Такі аналіз замацоўвае нашу веру ў тое, што К. Кузняцова не толькі гартала перыёдыку і збірала дакументальны матэрыял, гутарыла са Ждановіч і яе калегамі, а і сама была ў зале, калі на сцэне гучала сумная аповесць пра закаханых з Вяроны.

І яшчэ адна заўвага. Стылістычна кнігу можна было б і патрэбна было адрэдагаваць больш старанна. Бо сустракаюцца ў ёй і празмерна «прыгожыя» выказванні («Негіна... узнімае галаву і, абхапіўшы шыю рукамі, застывае. І глядач чуў біццё сэрца Негінай — Ждановіч, пакутаваў яе пакутамі», — атрымліваецца, што ўсё залежала ад таго, дзе былі рукі актрысы!), і звычайная калька з рускай мовы («індывідуальнасцю актрысы было пераўвелічэнне ў падачы матэрыялу» і... кропка, а далей — «Гэта ўнутранае пераўвелічэнне знаходзіла сваё ўвасабленне ў прыўзнятай, паэтычнай, рамантычнай танальнасці голасу — звонкага, якім вельмі арганічна мадуліравала актрыса»).

Зазначыўшы, што ў кнізе ёсць яўныя недахопы, паўторым, што гэта работа сведчыць пра дапытлівасць і ўменне К. Кузняцовай гаварыць пра акцёрскую працу як пра творчасць. На кніжных старонках нібы не змаўкае водгулле добрай славы Ірыны Ждановіч. А ў тэатральнай крытыцы з'явіўся яшчэ адзін цікавы аўтар.

**В. ІВІН.**

К. Кузняцова. «Ірына Ждановіч». Нарыс. Выдавецтва «Беларусь» Мінск. 1970.

# АБ ВЫТОКАХ ДРУЖБЫ

*Да выхаду ў свет «Хронікі літаратурнага жыцця» ў Літве за 1940—1960гг.*

Дваццаць кніг беларускіх пісьменнікаў перакладзена і выдадзена ў Літве за пасляваенныя гады, больш дзесяці кніг літоўскіх пісьменнікаў чытаюць беларусы на сваёй роднай мове, многія дзесяткі асобных перакладаў вершаў і апавяданняў абедзвюх рэспублік апублікавана ў газетах і часопісах Літвы і Беларусі. Такім цесным літаратурным сувязям могуць пазайздросціць многія з братніх рэспублік. А хто ж быў першым энтузіястам гэтай вялікай дружбы, якія яе вытокі і як далёка яны бяруць свой пачатак? Братняя Літва паклапацілася ўжо даць на гэтыя пытанні дакладныя адказы.

У Вільнюсе выйшла з друку «Хроніка літаратурнага жыцця за 1940—1960 гг.». падрыхтаваная Інстытутам літоўскай мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР. У ёй вельмі падрабязна адлюстроўваецца і развіццё літоўска-беларускіх літаратурных сувязей з моманту ўступлення Літвы ў братнюю сям'ю савецкіх народаў. Старанна праглядаючы старыя перыядычныя выданні, архівы і іншыя крыніцы, аўтары ўзнавілі цікавыя старонкі гісторыі, забытыя і малавядомыя факты працяглага перыяду літаратурнага жыцця рэспублікі. Кніга сведчыць, што першымі з літоўскіх пісьменнікаў, якія наведалі братнюю Беларусь, былі Сафія Кімантайтэ-Чурлёнене, Пятрас Цвірка і Антанас Венцлава. Першая прымала ўдзел у святкаванні Вялікага Кастрычніка 1940 года ў Мінску, а другія прыязджалі на святкаванне 35-гадовай літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы ў снежні таго ж года. Вярнуўшыся ў Літву, яны многа расказалі аб Беларусі і беларускай літаратуры ў пісьменніцкіх клубах, у друку Літвы.

Кніга нагадвае пісьмо Максіма Танка «Братам-літоўцам», апублікаванае ў друку ў суровым 1943 годзе, шматлікія падзеі і факты пасляваеннага часу, што сведчаць пра тое, як пашыралася братняя літаратурная дружба двух савецкіх народаў. Чытачы на старонках гэтай цікавай кнігі зноў сустракаюцца з імёнамі Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Міхася Лынькова, Максіма Лужаніна, Анатоля Астрэйкі, Міхася Машары, Віталія Вольскага і многіх іншых беларускіх паэтаў і празаікаў, якія наведвалі Літву і перакладалі творы літоўскай літаратуры на родную мову і ўнеслі каштоўны ўклад у гэту вялікую братнюю дружбу.

**Альгірдас ГРЫШКЕНАС.**
г. Вільнюс.

# УЗРУШАНАСЦЬ. МАЙСТЭРСТВА. ГУСТ.

**Тыражом у 335 тысяч экземпляраў выдавецтва «Беларусь» выпусціла ў свет новы фотаальбом, прысвечаны мемарыялу ў Хатыні.**

**Мастакі гэтага выдання — У. і М. Басалыгі, а мастацкія рэдактары — У. Круглоў і В. Курусь. Яны выявілі добры густ і такт — альбом не выглядае лёгкадумным і ў той жа час ён пазбаўлены афіцыйнасці, парадПасці.**

**Размяшчэнне фотаздымкаў, тэксту, вершаваных застаўак, малюнкаў зрэжысіравана такім чынам, што мы ўвесь час у напружанні. Тут няма сэнсавых і выяўленчых правалаў — усё трапна, усё прадумана. Мы быццам прысутнічаем у гэтым мемарыяльным комплексе, ходзім па яго бетонных сцяжынках, спыняемся перад вузлавымі элементамі помніка, чытаем усхваляваныя надпісы, углядаемся ва ўзрушаныя, гаротныя твары наведвальнікаў, чуем трывожны рэквіем званоў...**

**Зразумела, складальнікам альбома было б вельмі цяжка дасягнуць гэтага эфекту, калі б не выдатныя фатаграфіі вядомых нашых фотамайстроў А. і М. Ананьіных, якія здолелі стварыць здымкі, выключныя па эмацыянальным напружанні.**

**Фотаальбом адкрываецца, здавалася б, нейтральным здымкам Лагойскай шашы, па якой імчыцца чарада аўтамабіляў. Але нейтральнасць гэтага здымка знешняя. Ён набывае важкасць, калі чытаеш узрушаны нарыс Б. Стральцова, якім адкрываецца альбом: «Бясконцы паток машын цячэ і цячэ па Лагойскай шашы. На 54-м кіламетры, там, дзе прама з лесу на ўскрай дарогі выступаюць вялікія драўляныя літары, што складаюць усім вядомыя словы «Хатынь», асфальтавая стужка робіць адгалінаванне... «Чытаеш гэтыя словы і разумееш — на здымку не проста шаша, не проста аўтамабілі — гэта дарога ў Хатынь!.. Вось і яны, гэтыя вялікія драўляныя літары — быццам незвычайная страла, указваюць дарогу да жалобнага помніка.**

**Пайшоў адлік кіламетраў — да Хатыні засталося чатыры кіламетры, два, адзін... І вось перад намі шырокая, на ўвесь разварот альбома панарама мемарыяльнага комплексу: стары з забітым сынам на руках, чорны гранітны дах на месцы спаленай адрыны, коміны-стэлы, бярозавы гай уводдалі і цяжкія трывожныя хмары, што нізка навіслі над зямлёй, быццам падкрэсліваючы ўсю жудасць злачынства, што было ўчынена тут.**

**Гэты выразны элемент — нізкія чорныя хмары — складальнікі альбома скарыстоўваюць яшчэ. У адным з самых удалых, на маю думку, развароце альбома, там дзе знізу ліста — фатаграфіі чатырох званоў, здымак неба, вузкім ланцугом выцягнуты па версе ліста, нясе ўжо іншакшы эмацыянальны зарад. Калматыя рваныя хмары ствараюць уражанне блізкай навальніцы, яны быццам увабралі ў сябе той гнеў да фашысцкіх нелюдзяў, што грукае ў сэрцы кожнага савецкага чалавека попелам спаленых вёсак, памяццю аб загінуўшых блізкіх.**

**Перагортваем старонкі... Вось перад намі, быццам выхапленыя з плыні часу, твары людзей. Засмучаныя, гаротныя, узрушаныя, гнеўныя... Маладая дзяўчына глядзіць проста нам у вочы. І ў яе абліччы, позірку столькі неспакою, столькі рашучасці... Яна быццам звяртаецца да нас — да кожнага — з трывожным пытаннем: «Як магло здарыцца такое!.. Ці можна забыць гэта!!»**

**І зноў чорныя хмары, афарбаваныя апошнімі праменнямі сонца, а пад імі трапяткі язычок вечнага агню. Гэта ўжо сімвал вечнасці, адказ на пытанне дзяўчыны. Не! Ніколі, ніхто з тых, хто жыве на нашай зямлі, не забудзе трагедыю маленькай беларускай вёскі Хатынь, трагедыю сотняў вёсак, падобных на яе, пра два мільёны дзвесце тысяч беларусаў, якія загінулі, але не скарыліся перад ворагам.**

**За той час, што існуе Хатынскі мемарыял, выдавецтва «Беларусь» выпускае ўжо другі фотаальбом, прысвечаны помніку. Сотні тысяч наведвальнікаў мемарыяльнага комплексу купляюць гэтыя прыгожыя, вельмі ўдала складзеныя і надрукаваныя кніжкі, бо яны, відаць, самы лепшы сувенір, які можна набыць на памяць аб велічным помніку ў Хатыні.**

**Б. ВУС.**

---

га не было відаць. Туман сінеў і ў другім канцы вёскі на вуліцы. За Выганчыкам нізка над Луськім вісеў месяц, вялікі, жоўты, у смузе — здавалася, што ён на зямлі.

Над участкам выплыла з-за лесу зялёная летняя зара. Бралася на додніцу.

У тым баку быў Полацк, і Андрэю здавалася, што ён ідзе недзе туды, пакінуўшы ззаду ўсё на свеце...

Па выбітай сцежцы на вуліцы ля плоту лёгка было ступаць. Стаптаная падсохлая трава пад нагамі падымалася ўгару — расла ноччу, мокрая ад расы. Раса ляжала зверху на пяску на вуліцы цёмнымі плямамі; наліпла на плоце на жэрдках дробнымі густымі кропелькамі, што мак. Возьмешся за жэрдку рукой — капае з пальцаў.

Зябка рабілася за плячыма, было чуваць, як холадна ў рукі — у пальцы. Зноў паказвала на пагоду. Белыя воблакі не пайшлі на вёску з Загумення — сплылі на Курачовыя Цяні. Белая паласа стаяла ўжо пад самым лесам.

Недзе ў тым канцы вёскі загаляшыў певень; скрыпнулі блізка вароты; у Луськім, у тумане, загудзела і сціхла машына; за ракой пад Вешкамі азвалася дзікая качка, зачыркала густа і ядрана, — краталася, прачынаючыся додніцай, зямля...

Андрэй пастаяў яшчэ ля сваіх варот, гледзячы на Луськае.

«Сціраецца месяц, — падумаў ён. — Апошняя квадра...»

Дома ў хаце ён адразу падышоў да ложка да дачкі. Апёрся рукамі на брыж у галовах.

Дачка спала, спусціўшы з ложка руку. Ён доўга глядзеў на яе, тады заплюшчыў вочы... Забалела-забалела ў сярэдзіне...

Пасля ён падышоў і паправіў даччыну руку. У другой хаце, не распранаючыся, адразу паваліўся на ложак, чуў, як чыкалі на сцяне ад вуліцы ходзікі, і яму здавалася, што шэпча на вуха Балюта: «А чаму ты нічога не пытаешся?..»

Ад сцяны, дзе ўсягды спала Верка, запахла вільготнай глінкай...

Ён сціснуў галаву рукамі...

